ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 31 (2493)
ПЯТНІЦА
1
мая 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ. 8 кап.




Мал. В. ТАРАСАВА.

Аркадзь Куляшоў



# ДАЛЁКА ДА АКІЯНА



*З ПАЭМЫ*

## УСТУП

Вытокі рэк і шляхоў адзіны:
Ад непрыкметнае ручаіны
Паходзяць плыні
рэк паўнаводных,
Шляхі —
ад рэчышчаў
пешаходных.
І, нібы ў мора,
бягуць у горад
Шляхі-дарогі, —
адтуль, дзе вусціш,—
Рвучы напорам
маторным
горла
Каменных вуліц,
як рэкі вусце.
Жыццё —
шляхоў і рэк падабенства:
Рух падарожны
распачынае
Юнацтва наша
з крыніц маленства
І ў акіян нябыцця
ўпадае.
Але не маюць
шляхі і рэкі
Зайздроснай памяці
той, што можа
Аднойчы пройдзенае навекі
Вярнуць
з далёкага
падарожжа.
Жыццём агораўшы
век суровы,
Адбедаваўшы
час навальнічны,
Людская памяць
плысці гатова
Зваротным шляхам
у край крынічны.
Край Магілёўскі!
З гармат Еўропы
Смерць засявала
твой шнур жалезам,
Ды не змагла —
зараслі акопы,
А не дарогі,
травой і лесам.
Як у Дняпро,
у шашу Варшаўку
Цякуць рачулкі
дарог глыбінных,
Выносяць жвір
на траву-мураўку
Па дрогкіх
памяці
калянінах.
Там неабсяжнасць
нябёсаў сініх!
Там Сож і Проня,
Віхра і Бесядзь
Рукамі чулых
прытокаў сынніх
Лугі і пушчы
і нівы песцяць.
Мне б разам з імі
вясне ўсміхацца,
Вітацца з летам,
праводзіць восень,
З зімой спрачацца
і не спяшацца
На месца тое,
куды адвозяць.
Там, дзе рыпела
мая калыска,
Мне б жыць і верыць
беспрастанна,
Што да вытокаў жаданых —
блізка
І што далёка —
да акіяна.

## АГОНЬ

Узляцелі дужацца
Роем у палі
З першай снежнай сцюжыцай
Лісце-матылі.
Жоўтым, устрывожаным
Пасланцам бяроз
Крылцы адмарожвае
Вецер ды мароз.
Сівер над абшарамі
Пагражае ім,
Замятае хмараю —
Венікам сівым.
Спуджаная чаіца
Пакідае лёд.
Для зямлі канчаецца
Круг чарговы—год.
Новы пачынаецца
Кругаабарот.

Валакуцца леныя
Сані ўздоўж прысад,
А ўжо час — на змену ім —
Правіць панарад.
Разам з завірухаю
Снежнай за сялом,
Вольным громам бухае
Гулкі крыгалом.
Як сплыве за крыгамі
Холад па вадзе,
Луг і лог уздрыгамі
Дзень і ноч гудзе:
Б'юць, агнём шугаючы,
З неба перуны,
Лету высцілаючы
З кветак дываны.
А калі, знямоганы,
Адгрыміць Ілля,
Нівы стануць пожнямі,
Рунню іх—ралля,
Над імглой балотнаю
Зноў, як год назад,
Ваяваць з лістотаю
Будзе снегапад,
Каб правы, што страчаны,
Вырваць у яе...

У пары дзіцячае
Ёсць кругі свае.
Першы круг—пад вокнамі
З ранку вымяраць
Двор і прызбу крокамі
Шырынёю ў пядзь.
Далягляды новыя
Адкрываць штогод —
Межы палыновыя,
Лазню, агарод.
Круг другі — абжытыя
Поле, лес і луг,
Рэчкаю абвітыя...
Школа — трэці круг.

У пары дзіцячае,
Светлае пары,
На кругах адзначаных,
Ёсць свае сябры.
Мне дагэтуль помніцца
Наш буланы конь —
З легендарнай конніцы
Родам. Зваць —
Агонь.
Час імчаў імкліваю
Бурай над Агнём,
Бой махаў над грываю
Шабляй і клінком,
Бліскаў навальніцаю —
Залпам штурмавым.
Можа ганарыцца ён
Спісам паслужным:
Біўся пад Царыцыным,
Урываўся ў Крым.
Сто разоў агнём яму
Абпаліла скронь.
Трох адважных коннікаў
Пахаваў Агонь, —
Смерцю заарканеных
У нялюбы свет.
Трох байцоў параненых
Здаў у лазарэт.
Пад камандай сёмага
Сам зазнаў палон
Доўгага, рухомага
Лазарэта ён.
Толькі не далі яму
Рады лекары,
Хворага пакінулі
На чужым двары.
З ранай не залечанай,
Скончыў паслужны
Спіс, вайной скалечаны,
Ветэран вайны.
Ды пароды дужае
Быў армейскі конь,
Не сканаў асуджаны
Куляю на скон.
Стаць на ногі хвораму
Бацька дапамог.
Конь, на згубу ворагу,
Рваўся ў даль дарог.
Адхварэў, вядома рэч,
Восень і зіму,
А вясной — сядло і меч
Падавай яму!
Бразгаў, пэўна б, ножнамі,
Каб не адгулі
Залпамі апошнімі
Бітвы на зямлі.
Армія ягоная
Скончыла з вайной, —
Заняла Чырвоная
Кут чырвоны свой.
Меч пераплаўляецца...
Барана і плуг
На падворку маюцца
Нашым — для паслуг.
Ды буланы з норавам, —
Не спяшаўся ў бой
Са шнуром не ўзораным,
З жытняй паласой.
Што яму лямешная
Сталь, калі камдзіў
Перад строем спешаным
Некалі хваліў
Эскадрон іх, помніцца.
Як дзевяты вал,
Залівала конніца
Волгу, Дон, Урал.
Што яму палеткамі
Плуг і барану
Рухаць, калі гэткую
Ўзняў ён цаліну!

Дзе пранесла Конная
Сцяг свой баявы, —
Маючы законныя
На зямлю правы,—
Засялялі шумнага
Свету ўладары
Школамі, камунамі
Панскія двары,
Гукамі цымбальнымі,
Сходкамі сялян,
Гналі прэч чытальнямі
Цемру і падман.
На палі вярталіся
Людзі ад зямлі,—
У каго шпітальныя
Раны зажылі.
І прымалі велічна
Іх на свой парог
Сотні сёл, паселішчаў,
Тысячы дарог...
На жыхарства сталае
Да лясоў, палян,
З духаты шпітальнае,
Конаармеец Ян
Ранкам дня бясхмарнага
Праставаў. А я
Пасвіў легендарнага
Нашага каня.
Абудзіў маўклівую
Цішу за сялом
Ян: — Кось, кось!..

Над ніваю
Конь, махнуўшы грываю
Рыжай, як агнём,
Заіржаў... і вёрстамі
Рэха загуло.
Ян палямі роснымі
Вёў каня ў сяло.
Яну і буланаму
Браму я адпёр.
Госцю нечаканаму
Адмыкайся, двор!

Хоць і незнаёмы госць
Для бацькоў, але —
Скварка і яешня ёсць
З чаркай на стале.
І глядзеў з падворку конь
На байца ў акно,—
Нібы чарку горкую
З ім не браў даўно.
Ян не мог, расчулены,
Пазабыць таго,
Як Агонь пад кулямі
Ратаваў яго...
На каня паказвае
Бацька мой:
— Бяры!..
Дружба — рэч адказная,
Вы ж — з вайны сябры...
Конь — не для настаўніка.
— Конь, ён — конь для ўсіх... —
Кажа маці, ставячы
Закусь на дваіх.
Бацьку Ян адказвае:
— Дружба — рэч адказная,
Разумею сам.
Толькі абавязаны
Я — каню, ён — вам.
Тут яго крывавая
Рана зажыла,
Не, не маю права я
Браць — вайна прайшла.
Зможа ў вас тварыш мой

Цалкам паэма «Далёка да акіяна» будзе друкавацца ў №№ 6 і 7 часопіса «Полымя».

Зарабіць на хлеб,
Покуль не састарае,
Покуль не аслеп.
З бедамі ж зазнаецца, —
Лепш бы іх не меў, —
Знае хай, што маецца
Двор яму і хлеў,
З хлебам з дапамогаю...
Вось вам адрас мой...

І далей дарогаю
Ян пайшоў сваёй.

А каню няможацца
Аднаму ў хляве,
Б'ецца ён, трывожыцца,
Ды не па траве
З чэрвеньскімі росамі...
Пасярод двара
Тысячагалосае
Чуе ён «ура».
Ён жыццё цывільнае



Мал. В. ТАРАСАВА.

Замяніць гатоў
На былое, пыльнае
Цоканне падкоў,—
З бурамі, з маланкамі,
Што ўзрушаюць кроў —
Вострымі і яркімі
Як лязо клінкоў!
. . . . . . . .
Не пад тымі вострымі
Шаблямі імчы, —
Гэй, буланы, вёрстамі
Нашы дні лічы!..
Сонца ходзіць высака —
Сонца дагані.
Ягады на высеках
Абляпілі пні.
Недзе плача чаіца.
Чуеш, дарагі?
Вось і завяршаецца
Намі круг другі.
Ты мінай сунічныя
Лапіны — кось-кось! —
За дубровы зычныя,
Гучныя вынось.
Сціхне рэха гулкае —
Знікне лес з вачэй.
Пакідай мінулае,
Рвіся ў даль хутчэй.
Там, за незваротнымі
Днямі ў маладосць,
Нібы за варотамі,
Шлях прасторны ёсць.
Дык вынось дзіцячымі
Сцежкамі, мой друг,
З марамі гарачымі
Нас на трэці круг!



# ЧАЛАВЕК, ЯКОГА МЫ ВЕДАЛІ



З паэтам Петрусём Броўкам...



З маці Тодара Жыўкава...

Кірыл Пракопавіч Арлоўскі—чалавек, пра якога яшчэ пры яго жыцці складаліся легенды, заўсёды заставаўся арганічным, простым у сваіх паводзінах. Гэтая натуральнасць ішла ад самабытнасці, ад цвёрдай упэўненасці, што абраны шлях правільны. Ён разумеў, што «стаіць на службе ў чалавека», і заставаўся самім сабой у гутарках з сялянамі і міністрамі, школьнікамі і высокімі замежнымі гасцямі.

Дарэчы, гэтая свабода паводзін і прастата Арлоўскага ў многім дапамаглі беларускім кінематаграфістам зрабіць фільм пра яго—«У агні жыцця»*. Карціна адрозніваецца ад многіх падобных біяграфічных фільмаў тым, што герой яе ніколі не пазіруе перад кінаапаратам. Больш таго, часам ствараецца ўражанне, нібы ніякага апарата наогул не было, нібы ты сам-насам гаворыш з гэтым чалавекам.

Фільм пачынаецца не зусім звычайна—з трагічных кадраў яго апошняга шляху. Схіліўшы галовы, калгаснікі нясуць на могілкі труну. Зімовы дзень, вецер мяце снежны пыл... Людзі грэюцца ля вогнішча і ўспамінаюць таго, хто пайшоў ад іх, з кім зрадніліся, жывучы побач доўгія гады, прыгадваюць яго незвычайны лёс. Мы чуем: «Аднаго шпіёна аж у Маньчжурыі здабыў...», «А як у Іспаніі ваяваў... легенда!»

Мо гэта перабольшанне, казка, міф? Не. Аўтары даказваюць, што жыццё яшчэ больш неверагоднае, чым сама легенда. Пра Арлоўскага расказваюць дакументы, успамінаюць тыя, хто ведаў яго ў далёкія часы маладосці. Іх расказы спалучаюцца з хронікай тых гадоў. У ёй—падзеі эпохі, што сталі і падзеямі яго біяграфіі.

Чалавек з легенды... Бясстрашны кіраўнік партызанскага атрада, які ў часы белапольскай акупацыі паліў панскія маёнткі, даваў адпор карным экспедыцыям. Яго група спыніла пад Луніінцом спецатрад ваяводы Ленартовіча, абяззброіла ахову з афіцэраў дэфензівы, а самога пана пры ўсім народзе высекла. Пра гэта ў 1924 годзе пісала «Правда», адзначаючы палітычны эфект партызанскага мерапрыемства.

Тады Арлоўскі выступаў пад імем Мухі Міхальскага.

Пра партызанскую дзейнасць Арлоўскага ў 20-я гады расказвае таварыш Арэхва, былы член ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі.

Пра Арлоўскага ўспамінаюць сябры, паплечнікі.

ЧК... Восем з паловай гадоў напружанай дзейнасці. Адсюль, пэўна, і тыя рысы характару, што так яскрава праявіліся пазней. Сярод іх—галоўнае—«прыродны розум арганізатара».

Іспанія... Інтэрбрыгады... Тут пасябраваў Арлоўскі з іспанцам Лопесам, які пазней выратаваў яму жыццё ў партызанскім атрадзе.

Старонкі жыцця Арлоўскага гартаюцца на экране імкліва, адна за адной. Праўда, часам аўтары прадстаўляюць нам прамоўцаў занадта прасталінейна, афіцыйна. Цітры з надпісамі прозвішчаў нагадваюць надпісы на тэлеэкране ў час выступлення каментатараў-аглядальнікаў, гэта ўносіць непатрэбную афіцыйнасць у размову, і тады губляецца шчырасць, здабытая аўтарамі раней.

Дапаўняе асобныя ўспаміны, аб'ядноўвае іх, абагульняе чалавек, якога мы не бачым у кадры. Расказчык журналіст В. Панамароў (адзін з аўтараў фільма) добра ведаў Арлоўскага, сябраваў з ім, таму мы адчуваем яго адносіны да ўсяго таго, аб чым ідзе гаворка. Часам ён звяртаецца непасрэдна да глядзельнай залы. Мы бачым, як цяжка ўздымаецца з пасляваеннай разрухі калгас, як старыя капаюць асушальную канаву, калгаснікі рамантуюць калёсы, б'юць малатамі па бранi фашысцкага танка. «Можа і знойдзецца хто сярод гледачоў, для каго ўсё гэта — толькі жывыя малюнкі,—гаворыць дыктар. — У кіно, скажа, усё магчыма!.. Затое ў бацькі, у маці гэтага чалавека горкі летапіс, напэўна, адгукнецца боллю ў натруджаных плячах і спіне»...

Зазначым, праўда, што і ў дыктарскім тэксце сустракаюцца асобныя «малюнкі» накшталт — «старшынская арбіта», і газетныя штампы: «па маладому, табой саджанаму лесу гуляеш, мо, з будучым Гагарыным ці з будучай Церашковай» (так сказана пра Арлоўскага, які гуляе з дзецьмі). Але не такія выразы вызначаюць у цэлым агульную стылістыку расказа. І самае каштоўнае ў карціне—прыжыццёвыя, сінхронныя здымкі Кірылы Арлоўскага. Лепшыя з іх можна аднесці да сапраўдных удач нашай кінадакументалістыкі. Мы чуем жывую мову героя, яго трапныя словы, бачым яго твар—то ўпарты, то засяроджаны, хітраваты, вясёлы, засмучаны, энергічны. Хочацца пахваліць гукааператараў, якія дапамагалі нам пачуць простую, шчырую гаворку, такую гаворку, якой, бадай, мы яшчэ не чулі ў дакументальным кіно:

«— Таццяна! Час шэсць гадзін...

— Зараз ідзём... Сонейка яшчэ не ўзышло.

— Як казаў Тарас Бульба: «Пора, пора, шевелись стара!»

— Рана яшчэ... Пакуль збяруцца брыгадзіры...

— Хто рана ўстае, таму і бог дае...

— А ты любіш раней за ўсіх, хай бы збіраліся раней за цябе, адпачыў бы хвілінку лішнюю, а то ўсё спяшаешся...

— Адпачнём... адпачнём, калі памром...».

У гэтай сцэне не проста быт. Тут размова аб сэнсе жыцця, тут праяўляецца характар чалавека, усё жыццё якога—гарэнне.

Доўгія гады ідуць спрэчкі аб ідэальным і станоўчым героі ў мастацтве, аб тым, «рабіць жыццё з каго». Не, Арлоўскі, вядома, не быў хрэстаматыйна ідэальным, ён быў жывым чалавекам. Вось прыклад для моладзі, не выдуманы—жывы! Беларускія кінадакументалісты ў лепшых эпізодах карціны «У агні жыцця» паказваюць, на што здатна сапраўдная кінапубліцыстыка.

Адна з навел фільма «Мужнасць»—расказ аб чалавеку, які здолеў перамагчы свой трагічны лёс. Хвалюючыся, партызанскі камандзір Івашкевіч расказвае пра бой з немцамі, у якім Арлоўскі быў цяжка паранены. Яго хваляванне перадаецца нам. Івашкевіч быццам зноў перажывае той бой, вочы яго гараць, рухі парывістыя, ён узмахвае светлай чупрынай валасоў: «У гэты момант Кірыл Пракопыч другую шашку кінуў... не паспеў яе кінуць, толькі ўстаў, як нямецкі снайпер... у іх былі аптычнага прыцэлу вінтоўкі... ударыў яму ў руку, і шашка разарвалася ў руцэ... І тут Кірыл Пракопыч яшчэ некалькі разоў ускрыкнуў: «Бі гадаў!» — і ўпаў...».

Сінхронна запісаны, гучыць яго расказ пра тую страшэнную аперацыю. Удумайцеся — за сцяной было чуць як вастрылі пілу, каб адрэзаць руку... Пачыналася гангрэна. Плакаў побач іспанец Лопес, што вынес абгарэлага камандзіра з бою. А той, каб падняць настрой, надумаўся вучыць у гэты момант іспанца рускаму вымаўленню.

Фільм «У агні жыцця» паказвае магчымасці беларускай кінадакументалістыкі ў перадачы жывой атмасферы, у раскрыцці багацця душэўнага свету чалавека. Хацелася б, каб больш было такіх фільмаў.

У апошні час фільмы пра дзеячоў мінулага робяцца пераважна на іканаграфічным матэрыяле: выкарыстоўваюцца фотаздымкі, розныя рэчы, пісьмы і г. д. Але ж калі ёсць тэхнічныя сродкі, ёсць магчымасць захаваць для нашчадкаў мастацкі вобраз таленавітых мастакоў, артыстаў, людзей працы,—дык гэта трэба рабіць сёння, зараз. Час няўмольна бяжыць. Заўтра будзе позна. І рабіць гэта трэба на самым высокім узроўні—для гісторыі.

На жаль, і ў гэтай карціне адчуваюцца рэцыдывы стылістыкі фільмаў былых часоў. Ёсць пэўны налёт параднасці ў кадрах, дзе скарагаворкай ілюструюцца поспехі калгаса «Рассвет».

Арыгінальная навела «Дзесяць мінут маладосці». Тут і размова з ветэранамі, незапланаваная, з нечаканымі паваротамі ў гутарцы. Вельмі выразны, вобразны кадр — Арлоўскі ідзе адзін па дарозе: хударлявы, статны. Ветэран, як і яны, але, здаецца, самы малады... Побач з гэтай навелай адчуваецца слабасць, традыцыйнасць навелы «Хлеб і порах». Шкада, бо гэта фінал карціны. Тут ёсць і паўторы, і пэўная страта рытму, і сусальная ідылічнасць у прагулках з дзецьмі (абавязковы фінал многіх карцін). Словы паэта Броўкі аб Арлоўскім, добрыя самі па сабе, не мантыруюцца з кадрамі. Адчуваецца налёт інфармацыйнасці, паспешлівасці, быццам аўтары «пад заслону» імкнуліся дасказаць усё недасказанае, паставіць усе кропкі над «і».

Думаецца, не зусім апраўдана і празмерна «ў лоб» паказная дэманстрацыя дабрабыту «рассветаўцаў»—іх веласіпедаў, машын і г. д. Пэўна, гэта не ўсё, што пакінуў Арлоўскі ў спадчыну. Пэўна, галоўнае ўсё ж — людзі, з якімі ён поплеч працаваў, якія выхоўваліся на прыкладзе яго жыцця. У свой час справядліва крытыкавалі ідылічнасць фіналу карціны «Старшыня», у якім вялізны статак кароў мычыць на сельскай вуліцы, аддаючы даніну павагі памёршай цялятніцы. Здаецца, у нечым гэтую памылку паўтарылі аўтары «У агні жыцця».

І яшчэ—аб музыцы. Мо некаторыя не згодзяцца з гэтым меркаваннем, але, на маю думку, песня ў гэтым фільме не толькі не дапамагае вобразнаму раскрыццю думкі твора, а, наадварот, разбурае атмасферу праўдзівасці і паэтычнасці. Музыка Г. Вагнера з узнёсла-бадзёрымі, пафаснымі інтанацыямі не стасуецца з лепшымі ў сваёй прастаце і праўдзівасці старонкамі фільма. І тут вінаваты не кампазітар, а рэжысёр, які не вызначыў дакладна яго задачу.

Але гэта ўсё асобныя пралікі добрага твора.

Фільм «У агні жыцця» западае ў душу. Успамінаецца ўсмешка ў празрыстых, калючах вачах Арлоўскага, яго словы, яго постаць, яго жорсткая і светлая любоў да людзей.

Вольга НЯЧАЙ.

* «У агні жыцця», вытворчасць аб'яднання «Летапіс» студыі «Беларусьфільм». Аўтар сцэнарыя В. Панамароў, рэжысёр І. Вейняровіч, аператар Э. Гайдук, гукааператары Л. Вежнявец, А. Беклямішаў, кампазітар Г. Вагнер, тэкст песні А. Вялюгіна.

Пра што не пішуць у біяграфіі

# АТАМ І МУЗЫ

## ВЕЧАР З АКАДЭМІКАМ А. К. КРАСІНЫМ




Адноичы па журналісцкай справе давялося мне завітаць да Андрэя Капітонавіча Красіна. Я шмат чуў пра гэтага чалавека. Расказвалі, што калісьці ён працаваў у акадэміка Ігара Васільевіча Курчатава, пазней прымаў удзел у стварэнні першай у свеце атамнай электрастанцыі, за што быў удастоены Ленінскай прэміі. Потым узначальваў адзін фізіка-энергетычны інстытут, кіраваў навуковай распрацоўкай Белаярскай атамнай электрастанцыі, а з 1961 года жыве і працуе ў Беларусі.

Дамаўляючыся аб сустрэчы з дырэктарам Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР, я меркаваў, што наша гутарка адбудзецца ў яго службовым кабінеце, але атрымаў запрашэнне на кватэру. Вядома ж, я зусім не спадзяваўся ўбачыць у кватэры вучонага-фізіка партатыўны сінхрафазатрон. Але піяніна ў гасцінай і альбом мастацкіх рэпрадукцый на пісьмовым стале гаспадара падказалі мне думку, што тут сябруюць з мастацтвам. Размова наша, якая пачалася з фізікі, непрыкметна перайшла ў новае рэчышча. Надзвычай цікава было даведацца, як суіснуюць у адным чалавеку фізік і лірык, якое месца займае мастацтва ў жыцці вучонага, чаго ён шукае і што знаходзіць у свеце цудоўнага. Дарэчы, з апошняга пытання і пачалася наша размова пра атам і музы з акадэмікам АН БССР, заслужаным дзеячом навукі і тэхнікі БССР Андрэем Капітонавічам Красіным.

— Што прываблівае мяне ў мастацтве? Перш за ўсё, зразумела, яго эстэтычны бок. Добрая музыка, добрая карціна,— а мы гаворым толькі пра сапраўднае мастацтва,— прыносяць задавальненне, радасць сустрэчы з хараством. Але ёсць яшчэ адзін, я б сказаў, «утылітарны» бок майго захаплення. Чалавеку неабходна час ад часу адхіліцца ад свайго асноўнага занятку, неабходна ў нейкі момант змяніць ход думак. У нашай справе гэта свайго роду вытворчая неабходнасць. Чалавечы арганізм патрабуе часовага пераключэння з аднаго мысліцельнага канала на другі, і мне ў такіх выпадках прыходзіць на дапамогу мастацтва.

— Што менавіта? Музыка, жывапіс, кніга?

— Толькі, калі ласка, не пытайцеся, якому з відаў мастацтва я аддаю перавагу. Тады мне, у сваю чаргу, хочацца спытаць: а што лепш—гара ці ручай? У кожнай з'яве прыроды, у кожным плодзе ёсць сваё хараство, гэтак жа я знаходжу яго і ў музыцы, і ў жывапісе, і ў балеце...

— Але ж калі, скажам, для Моцарта свет складаўся перш за ўсё з гукаў, а для Ван Гога—з фарбаў, дык і сярод нас, звычайных людзей, нехта мае большую здольнасць думаць музычнымі вобразамі, а нехта лепш успрымае колер і форму...

— І ўсё ж мне цяжка зрабіць пэўны выбар, спыніцца на нечым адным. Але... Калі б мне раптам давялося кіраваць парадам муз, на першае месца я паставіў бы музыку. Напэўна, таму, што займаўся ёю і атрымаў пачатковую музычную адукацыю.

Праўда, іншы раз мне больш прыемна паслухаць любімы твор дома, чым у канцэртнай зале, дзе кашляюць, рыпяць крэсламі і тым самым адцягваюць увагу, перашкаджаюць засяродзіцца. Пласцінка дае табе і магчымасць паўтарыць музычны ўрывак, які палюбіўся.

З асаблівым задавальненнем слухаю ў грамзапісе оперу. Сцэнічныя ўмоўнасці, уласцівыя гэтаму жанру, мне здаецца, іншы раз перашкаджаюць галоўнаму—успрыняццю музыкі. Я лепш паслухаю ў запісе Шаляпіна ў партыі Мефістофеля ці Барыса Гадунова, чым іншага «жывога» выканаўцу, які намнога больш эфектна выглядае, чым спявае. Гэта, вядома, не значыць, што я страціў цікавасць да сцэнічнай пастаноўкі оперы, — хоць бы таму, што далёка не ўсё запісана на грампласцінкі. І потым ёсць сапраўды цікавыя пастаноўкі, таленавітыя выканаўцы.

Мае любімыя творы? Іх вельмі многа, усіх не пералічыш. Другі канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Рахманінава, трыо Чайкоўскага «Памяці паэта» ,накцюрн з Другога квартэта Барадзіна, 12-ы эцюд Скрабіна, Шапэн...

— А літаратура?..

— Вельмі люблю «Вайну і мір» і магу сказаць, што гэты раман дапамог мне выпрацаваць некаторыя прынцыпы маіх адносін да навукі. Яшчэ студэнтам я ўбачыў тут элемент філасофскага, дыялектычнага падыходу да некаторых жыццёвых сітуацый, і гэта ў нейкай ступені знайшло сваё адлюстраванне ў маёй навуковай дзейнасці.

Наогул у мастацкіх творах мяне надзвычай цікавяць сітуацыі, калі чалавек стаіць перад неабходнасцю вырашыць тое ці іншае жыццёва важнае пытанне, і акалічнасці не падказваюць яму адназначнага выбару. У такіх выпадках міжволі ставіш сябе на месца літаратурнага героя і адчуваеш задавальненне, калі ён робіць так, як у яго становішчы зрабіў бы ты сам. Вучоныя ў большасці сваёй рацыяналісты, і ім, натуральна, хочацца каб нават кніжныя персанажы, не кажучы ўжо пра жывых людзей, у сваіх дзяяннях і ўчынках заўсёды выбіралі аптымальны варыянт...

Мой субяседнік на хвіліну задумаўся, а мне тым часам прыгадалася колішняя дыскусія паміж «фізікамі» і «лірыкамі».

Ці не больш паміж імі агульнага, чым рознага? Я спытаў пра гэта Андрэя Капітонавіча.

— У іх агульная першаасnова — творчасць. Сапраўдны вучоны і мастак заўсёды першаадкрывальнікі, абодва яны ствараюць нешта новае. Творчы працэс у нечым аднолькавы і ў фізіка-тэарэтыка, які думае, скажам, над уласцівасцямі антычасцінак, і ў пісьменніка, які працуе над раманам, і ў рэжысёра, які ламае састарэлыя сцэнічныя каноны...

— У нашай літаратуры і перыёдыцы вядомы тып вучонага — «адналюба», які апраўдвае сваю абыякавасць да музыкі, тэатра, наогул, да мастацтва нежаданнем «здрадзіць» навуцы як галоўнаму захапленню свайго жыцця. Гэта даўно прывыклі называць «одна, но пламенная страсть». Як вы ставіцеся да такіх вучоных?

— Думаю, што гэта дзівацтва. Нават на пачатковай ступені развіцця чалавек не мог абысціся без мастацтва — няхай прымітыўнага, у выглядзе наскальных малюнкаў ці рытуальных танцаў... Можна мець здольнасці ў матэматыцы, але не мець слыху. Але ж не абавязкова захапляцца менавіта музыкай! Жыць без мастацтва нельга — можна па-рознаму ставіцца да яго...

Праўда, бывае што чалавек навукі свядома ігнаруе мастацтва. Тут можа быць некалькі прычын. Адны лічаць вобласць эмоцый полюсам, які процістаіць навуковаму рацыяналізму, і непакояцца, каб развіццё гэтых эмоцый не парушыла тую гармонію характару, якая робіць чалавека здольным працаваць у навуцы. Іншыя жадаюць сэканоміць час: тры гадзіны, праведзеныя ў тэатры, здаюцца ім страчанымі на шкоду галоўнай справе. Нарэшце, трэція проста абыякавыя да мастацтва з тае прычыны, што ў свой час не атрымалі больш-менш вартага эстэтычнага выхавання, а займацца гэтым цяпер лічаць залішнім. І тыя, і іншыя абкрадаюць сябе, таму што мастацкая культура ўзбагачае кожнага чалавека, а вучонага асабліва: усе значныя адкрыцці з'яўляюцца вынікам натхнення, якое ўласціва і сапраўднаму вучонаму, і сапраўднаму паэту.

— Цікава, ці пазнаюць сябе фізікі ў адлюстраванні лірыкаў?

— Як калі. Добры фільм «Дзевяць дзён аднаго года». Але такіх, на жаль, нямнога. Можа дзеячы мастацтва і літаратуры мала сустракаюцца з вучонымі, баяцца складанасці навуковых праблем, над якімі мы працуем? Але ж мы ўсё можам растлумачыць, сёе-тое паказаць. У нашым інстытуце нядаўна пабывала група беларускіх кінематаграфістаў, здымкі часткова вяліся «скрытай камерай», і атрымаўся вельмі нядрэнны тэлевізійны фільм «Я чую вестку». Ва ўсякім выпадку гледзячы на экран, мы не пасмейваліся, як гэта часта бывае ў падобных выпадках. А то многія глядзяць на нас вачыма шасцігадовага чытача з вядомай дзіцячай кніжкі: «Вместо шляпы на ходу он надел сковороду...» Апрача рассеянасці — традыцыйнай рысы, якая прыпісваецца вучоным намнога ў большай ступені, чым гэта ёсць на самай справе,— чалавек навукі валодае многімі іншымі якасцямі, безумоўна, цікавымі і для пісьменніка, і для мастака, і для кінарэжысёра.

— Ваша спецыяльнасць — ядзерная фізіка, навука не проста сучасная, але нават, можна сказаць, «модная». Аднак у мастацтве, мяркуючы па ўсім, вы аддаеце перавагу класіцы. А як вы ставіцеся да мадэрна?

— Мне давялося пабываць у многіх музеях свету. Я бачыў Луўр, нью-йоркскі «Метрапалітэн-м'юзіэм», музей Рэмбранта ў Амстэрдаме, выстаўкі ў Канадзе, Індыі, Швейцарыі... Але лепшымі нацыянальнымі мастацкімі зборамі ўсё ж лічу Траццякоўскую галерэю і Рускі музей. Мне падабаюцца творы прадстаўнікоў ранняга і сярэдняга імпрэсіянізму — Ван-Гога, Сезана, Гагена, Рэнуара, Манэ. Але да работ абстракцыяністаў у мяне адносіны дваістыя. З аднаго боку, я разумею, што без эксперыменту нельга абысціся як у навуцы, так і ў мастацтве. Але ў абстрактным мастацтве цяжка адрозніць творчы пошук ад самай звычайнай халтуры. А галоўнае — сярод многіх бачаных мной твораў мастакоў-мадэрністаў я не сустрэў такога, які б аказаў на мяне моцнае эмацыянальнае ўздзеянне. Я не бачу магчымасці выказвання высокіх эмацыянальных пачаткаў сродкамі абстрактнага мастацтва. Але ў нейкіх бытавых праяўленнях яно апраўдана. Мне б, напрыклад, не хацелася бачыць у сваёй кватэры парцьеры з вінаграднымі лозамі ці іншым «канкрэтным жывапісам». Там, дзе абстрактная кампазіцыя выконвае дэкаратыўную ролю, яна, па-мойму, мае права на існаванне.

Мадэрнізм у музыцы — з'ява такая ж распаўсюджаная, як і ў жывапісе, але, на жаль, не больш прыемная. Нядаўна за граніцай я глядзеў балет, які суправаджаўся скрыгатаннем металу, дзікім бразгатаннем і іншымі вытворча-шумавымі эфектамі. Незвычайна, канструктыўна, аднак у другі раз я на такі «балет» не пайду.

— А сінтэз мастацтва і тэхнікі — напрыклад, камп'ютар-шахматыст?

— Машына, якая гуляе ў шахматы, можа загубіць шахматнае мастацтва. Тэарэтычна кожны працэс, у тым ліку і шахматная гульня, можа быць запраграміраваны настолькі падрабязна, што машына выйграе любую партыю. Але такая гульня ўжо не будзе мастацтвам. Іншая справа, калі тэхніка арганічна ўваходзіць у мастацтва, нараджаючы яго новыя формы. Я маю на ўвазе новыя музычныя інструменты. Аднак і тут неабходны густ і пачуццё меры. Інакш людзі пабягуць з канцэрта, аглушаныя фарсіраваным гучаннем модных у апошні час электрагітар, як гэта ўжо не раз здаралася ў Мінскім Палацы спорту. Мастацтва, калі яно мае права называцца так, не павінна біць па нервах і барабанных перапонках, аказваючы такім чынам чыста фізічнае ўздзеянне на чалавека. Яно заклікана прыносіць эстэтычнае задавальненне — вось у чым я глыбока перакананы...

Аркадзь БРЖАЗОЎСКІ.

Чалавеку гавораць: дзякуй

# ЯК ПЕРШАЯ НАСТАЎНІЦА

...Сваю першую настаўніцу памятаю добра. Яна навучыла мяне чытаць. А вось першага свайго бібліятэкара—не запомніў. Напэўна, гэта быў раўнадушны чалавек: да мяне, да кнігі. Браў з маіх рук кнігу, запісваў у фармуляр—і ўсё.

Калі ж у вёсцы Гарбацэвічы, на Бабруйшчыне, я пазнаёміўся з Аляксандрай Мікалаеўнай Гайшун, мне падумалася: такога бібліятэкара я б запомніў на ўсё жыццё.

Неяк яна мне казала пра сваіх чытачоў. Дзіўна. У кожным з іх яна бачыла новы, арыгінальны і цікавы характар. Вось з яе назіранняў:

«Адны чытачы ўмеюць выбраць кнігу. Шмат часу не трацяць. Другія шукаюць доўга і блытана. Трэція не шукаюць наогул—чытаюць, што пад рукой. З першымі працаваць лёгка, з другімі—цяжэй, з трэцімі — зусім клопатна, але трэба. За апошнія гады стала шмат чытачоў, якія настойліва шукаюць навінкі, просяць спецыяльную літаратуру па спісе, складзеным загадзя. З такімі цікава пагаварыць аб кнігах, а дагадзіць ім, задаволіць доўгачаканым томам — прыемна. Клопатаў яны, праўда, робяць нямала, бо не заўсёды патрэбная кніга ёсць. Але для такіх чытачоў у бібліятэцы заведзена картатэка адмоў».

Аляксандра Мікалаеўна кожны дзень заглядвае ў яе, шукае патрэбныя чытачам кнігі, стараецца каб гэта картатэка змяншылася. Аднак і настойлівасці ў чытачоў прыбаўляецца. Гэта не бянтэжыць бібліятэкара. Нават радуе: людзі хочуць чытаць, ведаюць, што трэба чытаць, вераць у яе ўвагу.

А ёсць і такія. Прыходзяць у бібліятэку, сноўдаюцца ад стэлажа да стэлажа, і нічога не гавораць ім назвы на вокладках, прозвішчы аўтараў — тым больш. Так і не знайшоўшы ў моры кніг адной для сябе, просяць даць ім «што-небудзь цікавае». Гэта «што-небудзь» Аляксандры Мікалаеўне балюча чуць: значыць, чытае чалавек ад выпадку да выпадку. Як жа зрабіць, каб і яму кніга стала сябрам?

— А зрабіць гэта я абавязана, —так Аляксандра Мікалаеўна разумее сваю прафесію.

Разумее і... працуе. Наладжвае тэматычныя выстаўкі, праводзіць канферэнцыі чытачоў — у сябе ў бібліятэцы і ў сельскіх клубах, у чытальнай зале робіць агляды навінак.

— Глыбока перакanана, што з кнігай можна падружыць кожнага чалавека, — гаворыць Аляксандра Мікалаеўна. — Трэба толькі знайсці такую кнігу, якая брала б яго за жывое.

І бібліятэкар вывучае фармуляры: што за чытач, кім і дзе працуе, якая ў яго адукацыя. Заведзена і картатэка грамадскіх прафесій чытачоў. Многія здзіўляюцца, калі прыходзяць у бібліятэку і чуюць прапанову разам з бібліятэкарам скласці план свайго карыстання кнігамі. Больш за сто чытачоў бяруць кнігі па такіх тэматычных планах. Мяняюцца пла-

# З ЧАГО ПАЧЫНАЕЦЦА ВЯСНА?

**НАПЭЎНА, не знайсці і двух чалавек, якія б аднолькава адказалі на гэтае пытанне.**

**Адзін скажа, што для яго вясна пачынаецца тады, калі ён скідае зімовае паліто...**

**Другі — адразу прыгадае, як звіняць раўчукі пасля першай вясновай навальніцы...**

**Трэці...**

**Учора я бачыў, як для чалавека пачалася вясна. Гэта быў вельмі дзелавы чалавек, загружаны ўсялякімі неадкладнымі справамі. Ён, здаецца, не заўважаў нічога, акрамя сваіх папер, якія горамі ляжаць у яго на стале. Мы сядзелі ў яго кабінеце — і раптам у пакой увайшла маладая жанчына-кур'ер. Яна была вельмі прыгожая. Апранутая ў лёгкі веснавы касцюм, на твары свяцілася ўсмешка, а ў вачах яшчэ захаваўся бляск вясновага сонейка, якое заліло ўсе вуліцы.**

**— Што робіцца з жанчынамі,— здзіўлена сказаў Дзелавы чалавек. Пакруціў галавой і нечакана, з нейкай нават разгубленасцю ў голасе, канстатаваў:— Вясна...**

**Вясна!..**

**Не знайсці, відаць і двух чалавек, якія б аднолькава адказалі на пытанне, з чаго пачынаецца вясна. Але калі спытацца пра гэта ў аднаго, другога, трэцяга, то можна заўважыць, што для ўсіх прыход вясны звязаны з нечаканым адкрыццём прыгажосці... Прыгажосці ва ўсім, што вакол нас.**

**Вясна быццам дакранаецца чарадзейнай палачкай да ўсяго, што здавалася будзённым, звычайным — і гэтае звычайнае робіцца цудам.**

**Вось мы і друкуем тры работы мастакоў Л. Шчэмелева, М. Моўчана, Ю. Зайцава, якія экспануюцца цяпер на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы. Друкуем таму, што яны сугучны сённяшняму настрою кожнага чалавека.**

**Усе гэтыя работы ўслаўляюць прыгажосць, яны прасякнуты радасцю існавання.**

**Мы ўглядаемся ў твары прыгожых жанчын, у постаць маладой маці, якая стаіць ля парога новага дома, быццам ля парога новага жыцця, і адчуваем, што гэтыя людзі нечым вельмі блізкія нам, вельмі дарагія. Мы разумеем іх. Разумеем іх усмешкі, іх радасць... І хоць гэтыя работы створаны ў розны час, чамусьці хочацца думаць, што ўсе яны створаны вясной, у тую пару, калі аднаўляецца жыццё, калі пачынаецца прыгажосць.**

**А. БАРАДАЧ.**



М. МОЎЧАН. Святлана.



Ю. ЗАЙЦАЎ. Поўдзень.



Л. ШЧЭМЕЛЕЎ. Наваселле.

---

ны — мяняюцца з імі і самі чытачы. Учора яны прасілі даць «што-небудзь цікавае», а сёння ўжо самі ведаюць, што ўзяць з паліцы.

Калі гэта бібліятэка ўключылася ў агляд, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, Гайшун паставіла перад сабой задачу—пазнаёміць усіх чытачоў з ленінскай спадчынай, з Леніным-аўтарам, са скарбніцай ленінскай думкі. Кожны месяц у бібліятэцы наладжваецца «Ленінскі дзень». Да яго рыхтуюцца фота-альбомы выстаўкі кніг — твораў Ільіча, літаратуры аб ім. У гэты дзень праводзяцца гутаркі і віктарыны, гучыць музыка, якую любіў Ленін, прайграюцца пласцінкі з запісам яго голасу. Уся атмасфера выхоўвае, настройвае на пачуцці, роздум.

Як і сваю першую настаўніцу, помню я Аляксандру Мікалаеўну.

М. ПІРОЖНІКАЎ.

---

Чалавеку гавораць дзякуй

# ДОМ ПАД КЛЁНАМІ

ПАМЯТАЮ, як гэты белы домік пад зяленінай клёнаў толькі адчыняўся. Сабралася шмат людзей. З саміх Доктаравіч, з суседніх вёсак. Зайшлі. Знялі шапкі. Пачуліся першыя галасы і... слёзы. На чырвоных шкляных дошках (іх дзевяць — па колькасці вёсак) срэбрам адсвечвалі прозвішчы 233 воінаў і партызан, ахвяр фашызму. У гэтых радках знаходзілі сваіх братоў, мужоў, сыноў, бацькоў. За гіда быў невысокі, сярэдніх гадоў мужчына — дырэктар саўгаса Мікалай Іосіфавіч Апацкі.

Гэта яго задума — стварыць саўгасны музей.

Як дырэктару саўгаса яму хапала ўсякіх гаспадарскіх клопатаў. А ён знаходзіў час, каб весці пошук сваіх землякоў, даследаваць іх жыццё, абставіны гібелі, набываў дом пад музей, заказваў стэнды, дамаўляўся з фотамайстрамі. Сваім клопатам Апацкі захапіў галоўнага эканаміста саўгаса Галіну Андрэеўну Пракаповіч, дырэктара школы Валянціна Серафімавіча Тураўца, інжынера саўгаса Івана Мікалаевіча Яроцкага.

Сотні фотаздымкаў, пісьмаў, дакументаў, лістовак часоў першай рускай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, знойдзеных у сямейных альбомах і бабуліных пранафталіненых куфрах, сталі экспанатамі музея.

Заходзім у маленькі пакойчык. На століку бюст У. І. Леніна. Гэты бюст дырэкцыя саўгаса набыла ў 1937 годзе. У першыя дні вайны нехта схаваў яго. А знайшлі... толькі ў 1950 годзе ў час рамонту аднаго з інтэрнатаў. Рабочы М. Данілец рэстаўрыраваў бюст і перадаў у музей...

Тут і партрэт першага трактарыста Іосіфа Іпалітавіча Калевіча. У 1934 годзе ён вадзіў «фардзон», цяпер — трактар «Беларусь».

А вось фотакарткі бязвусых юнакоў нараджэння 1925—27 гадоў. Такіх пераважная большасць. Кожнае фота — нечая незагойная рана, нечы боль. Ураджэнцам Доктаравіч быў Герой Савецкага Саюза Аляксандр Рыгоравіч Таўпека. Ён абараняў Ленінград, камандаваў батарэяй самаходных гармат, удзельнічаў у прарыве блакады горада-героя. Аб тым, што ён загінуў у 1944 годзе, землякі, блізкія і родзічы даведаліся пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

Дастойна ўвекавечана ў музеі і памяць паэта - земляка Аляксея Коршака, які да вайны друкаваў свае вершы і нарысы ў літаратурных часопісах, у газеце «Літаратура і мастацтва», падрыхтаваў свой першы паэтычны зборнік, хоць выдаць не паспеў — пачалася вайна. Аляксей пайшоў на фронт. Загінуў ён у лютым 1945 года ва Усходняй Прусіі. Зборнік яго вершаў выйшаў пасля вайны пад назвай — «Апаленыя пялёсткі», адзін экземпляр — пад шклом побач з партрэтам паэта.

Добрую справу зрабілі арганізатары музея, сабраўшы ў спецыяльную папку пісьмы воінаў - франтавікоў, што не вярнуліся да бацькоўскага парога. Колькі іх тут! Маленькія пажаўцелыя трохкутнічкі з нумарамі палявой пошты і цяпер, здаецца, пахнуць салдацкім потам, порахам. Іх аўтары даўно загінулі. А пісьмы не паміраюць. «Дарагая мамачка! Я жывы і здаровы, гонім фрыцаў. Шукайце там на карце горад Брамберг, мы яго занялі некалькі дзён назад. Рушым наперад, бяром трафеі, вызваляем з канцлагераў нашых людзей... Пішыце мне, як там у вас у вёсцы...» Гэта апошні ліст ад Уладзіміра Ясючэні, жыхара вёскі Станькава. 26 студзеня 1945 года ён загінуў.

Такіх пісьмаў шмат. Прадстаўлены на стэндах подзвігі капыльскіх партызан. Як вядома, ужо ў 1942 годзе тут дзейнічалі чатыры партызанскія брыгады і некалькі спецатрадаў. Дзесяткі рабочых і служачых саўгаса змагаліся ў радах народных мсціўцаў. Аб гэтым расказваюць лістоўкі і газета «Калгаснік Капыльшчыны», якія выдаваліся ў адной з брыгад.

Аддаючы даніну павагі героям мінулай вайны, стваральнікі музея не забылі тых, хто адстойваў заваёвы Кастрычніка на палях грамадзянскай вайны. І сёння жывуць у саўгасе чапаеўцы Т. Ясючэня, І. Мароцкі, Я. Лапаух, І. Ліпніцкі. Кожнаму з іх — за семдзесят. Шкада, што змясціўшы іх партрэты, забылі запісаць успаміны аб службе ў легендарнай чапаеўскай дывізіі, дзе, дарэчы, ваявала каля сотні капыльскіх добраахвотнікаў. Гэтым людзям, як і былому байцу Першай коннай арміі А. Шышко, члену КПСС з 1931 года, ёсць што ўспомніць, аб чым расказаць.

Яшчэ некалькі слоў пра стваральніка музея, камуніста Мікалая Іосіфавіча Апацкага.

Ён памёр. Заўчасна, нечакана. Зрабіўшы многа карыснага ў Доктаравічах. Землякі аддалі памяці гэтага выдатнага арганізатара і чалавека куток у адным з пакояў музея, змясцілі там яго партрэт, урадавыя ўзнагароды, расказалі пра яго жыццё.

Думаецца, што энтузіязм Апацкага можа многаму навучыць такіх жа кіраўнікоў гаспадарак, савецкіх і партыйных работнікаў, якім быў сам Мікалай Іосіфавіч. У героіцы ўчарашняга дня ён бачыў заўтрашнія перамогі, і музей, створаны ім, служыць выхаванню маладога пакалення.

А. БАРЫСЕВІЧ.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ!



Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказаў прэм'еру «Памяць сэрца» па п'есе А. Карнейчука (пераклад А. Макаёнка). Пастаноўка Б. Луцэнкі, мастацкае афармленне Б. Герлавана. Музыку да спектакля напісаў М. Качан.

На здымку — сцэна са спектакля. У ролі Кацярыны Міхайлаўны заслужаная артыстка БССР М. Захарэвіч, Кірылы Сяргеевіча — артыст Б. Уладамірскі.

Фота Ул. КРУКА.



П'есу А. Салынскага «Марыя» паставіў Рускі драматычны тэатр БССР імя М. Горкага. Рэжысёр М. Вазнясенскі, мастак — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Галубовіч.

На здымку — сцэна са спектакля. Марыя — заслужаная артыстка БССР Б. Масумян, Даброцін — І. Камароў.

Фота Ул. КРУКА.



Прэм'ера спектакля па п'есе Ю. Чапурына «Маё сэрца з табой» адбылася на сцэне Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра.

Пастаноўку ажыццявіў галоўны рэжысёр, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Струнін.

На здымку вы бачыце сцэну са спектакля. Сакратар райкома Афанасій Пятровіч Цяньгаеў — заслужаны артыст БССР А. Цароў (злева), старшыня калгаса Кузьма Іларыёнавіч Мяфодзьеў — Л. Скворкін.

Фота А. ПЕРАХОДА. (БЕЛТА).

## НАРЫС ТРЭЦІ




В. КАРАМАЗАЎ

Апошнюю начную песню адспявалі нам з Рыгорам правады за сцяной: апошні раз узыходам сонца мы сядзелі на ложках, слухаючы рыплівыя крокі пад вокнамі, — мароз душыў усё жывое і нежывое; напаленая звечара грубка аддала нам апошняе, не выветрынае за ноч, цяпло...

Васіль Іванавіч Карніенка быў у канторы, калі мы завіталі туды, перш чым пакінуць Неглюбку. За ўсе гэтыя дні так і не пагаварылі з ім, дырэктарам саўгаса, аб рэчах, якія цікавілі, — не бачыліся. І не па сваёй віне. Тым больш — не па яго.

— У саўгасе толькі павернешся. То нарада ў Ветцы, то нарада ў Гомелі... Вось зноў ехаць.

— Няма калі працаваць?

— Без усякае меры тузаюць.

У невялічкі, ад душы напалены кабінет заходзілі і выходзілі механізатары, брыгадзіры, рабочыя, несучы з сабой пахі бензіну, сена, марознага паветра. За дні адсутнасці гаспадара ў гаспадарцы, накіпела ў людзей клопату, скарг, няўвязак, і вось — дзверы не зачыняліся. Аднак паступова наведвальнікаў менела, нарэшце зусім пацішэла, ды тут у дзвярах паказаўся дырэктар мясцовай школы Аляксандр Ягоравіч Прышчэпаў. У яго быў свой клопат, і Васіль Іванавіч ведаў гэта, але пачатую з намі гаворку не згарнуў, тым больш, што яна датычыла і школы.

— У некаторых маладых пупавіна лёгка рвецца. Якая з зямлёй павінна вязаць. Скончаць дзесяць класаў, а працаваць на зямлі не кідаюцца. Цэляць у гарадскі свет.

— У Неглюбцы ж інстытутаў няма.

— Каб усе да навукі рваліся. А то—абы з вёскі. Можна падумаць, што тут месца мала.

— У нас яшчэ не бяда. Вунь у суседзяў...

— Сапраўды. Яшчэ ў Неглюбцы рабочых рук — толькі занятак дай. Ды хвароба суседзяў ужо і сюды падкатваецца...

А мне да памяці прыходзіць Марыя Суглоб — жвавая працавітая маладзічка, кожны дзень яна прыбірала ў гасцініцы, паліла грубкі, звечара падвёзшы на саначках звонкія прамёрзлыя дровы. Мне паведалі яе жаночую бяду: малады прыгожы муж, пакінуўшы з дзецьмі, з'ехаў у Мурманск лавіць рыбу і не пераловіць ужо колькі год, забыўшы і на жонку і на дзяцей. Спадабалася воля — голасу не падае, а маладзіца нудзіцца: не ўдава і не замужам.

— Школа не прывівае любві да свае вёскі, да зямлі. Пагадзіцеся, Аляксандр Ягоравіч, — злёгку папракае Карніенка — Забываемся ў выхаванні на галоўнае.

— А Вера Дзеравянкіна?

— Вось і атрымліваецца, што Вера ў нас — як выключэнне.

Васіль Іванавіч з непрыхаванай, бо навошта такое хаваць, радасцю расказвае пра дзяўчыну: скончыла дзесяцігодку — працавала цялятніцай, затым вывучылася на заатэхніка — пачала кіраваць самай занядбанай брыгаднай гаспадаркай. А цяпер фермай загадвае.

— Трэба моладзь зацікавіць не адной работай, — заўважае Прышчэпаў.

— Правільна. Вось палац культуры пабудуем. У вёсцы свая бальніца, школа. Кожны дзень можна ў Гомель і з Гомеля. Дваццаць хвілін — і ў абласным тэатры. Кепска? — кідае дырэктар саўгаса.

— Іншыя палацамі абстаўяцца, а людзі бягуць...

— Дык у чым справа?

— Можа...

Гэта нешта-нейкае падумаў Рыгор, нясмелым маладым гусаком выцягнуўшы да стала шыю. Асекся, быццам няўпэўнены, што скажа ўпапад, ды я ўжо ведаў настойлівасць, з якой разварочваюцца ўсе Рыгоравы думкі, і сам сабе падумаў: праб'ецца ўсё ж са сваёй думкай і зараз. Ён крутнуўся на крэсле і зноў:

— Можа ў Неглюбцы трымаюць матчыны ручнікі? Дзяўчат, хлопцаў. Можа песні трымаюць?..

— Ручнікі? — перапытаў Васіль Іванавіч, з увагай зірнуўшы ў малады Рыгораў твар.

— Гармоні Пятра Прыходзькі...

— А што ты думаеш? Трымаюць і яны.

Гаворка па-ранейшаму вілася аб тым жа вясковым патрыятызме неглюбцаў, ды нечакана пасля Рыгоравых слоў скіравала да неглюбскіх ручнікоў, песень, рамёстваў, якія здаўна жылі тут таксама на правах мастацтва. Прызналі ж, скажам, мастаком па лазе пастуха Івана Асіпенку, які пляце кашы ды кублы, а па бандарнай справе — Івана Лямцава, а па кладцы печаў ды грубак — Васіля Карotчанку. У Неглюбцы нават рамёствы існавалі не толькі дзеля хлеба. А тым больш — ткацтва. Яго карані — у людскіх душах, бо кожны ручнік і кожная песня нараджаліся не на чужой ніве, на спрадвечна сваёй.

— Буслоў вазьміце, — разважаў Васіль Іванавіч. — Свет за зіму аблётаюць, а ў Неглюбку вернуцца, сваё гняздо знойдуць.

— Не як іншыя людзі...

Зноў спомніліся песні ў Просеччынай хаце, твары і душы неглюбскіх пяюх у тых песнях, іх галасы, злітыя адным пачуццём. Спомніліся і песні іх дзяцей — неглюбскай моладзі, з якімі яна выступала ў Ветцы на раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці. Не хацелася б спамінаць. Дзеці такой песеннай вёскі, як Неглюбка, нашчадкі багацейшых мастацкіх традыцый раптам спяваюць не на «біс», а на «рогат» у зале, спяваюць на нейкім моўным сурагаце, не па-руску і не па-беларуску, — песенькі пра Нар'ян-Мар Адэсу-маму, пра дзяўчат, якія «танцуют на палубе» і матросаў... Куды дзяваліся свае неглюбскія песні? Я не пра тыя, дзе аплакваецца доля рэкрута, які «служыў службу ваенную, ды стаў паміраць», дзе «плача Ганначка, замуж ідучы», хоць песні гэтыя — духоўны скарб Неглюбкі і таксама вартыя сучаснай сцэны як песні народа, яго фальклорнае багацце. Калі моладзь не хоча спяваць «старадаўшчыну», дык жа ёсць і іншыя песні, усім ладам сваім і словам сугучныя і маладосці, і дню сённяшняму, і Неглюбцы. Вядома, можна спяваць і пра Нар'ян-Мар, але ж такія песні на ўсе сто працэнтаў авалодалі рэпертуарам калектыву, ні на адзін працэнт не раскрыўшы яго сапраўднай духоўнай сутнасці.

Можа здацца, што сённяшняя моладзь Неглюбкі рашуча адыходзіць ад мастацкіх традыцый бацькоў? Гэта не так.

Забывае ткацтва? Сапраўды, маладыя дзяўчаты амаль не садзяцца за матчыны кросны. Але як стракацяць на вясковых гульбішчах кофты, вышываныя яшчэ бабчынымі ўзорамі, колькі цудоўных тканых посцілак упрыгожвае неглюбскія хаты, дзе жывуць маладыя людзі!..

Выводзяцца гармонныя майстры? Але ж не выводзяцца гарманісты, якія за гонар лічаць іграць на сваёй неглюбскай гармоні. Хаця б Пеця Суглоб...

Іншыя танцы пайшлі ў моду? Але ж яны так і не выжылі з Неглюбкі «Сямёнаўну» і «Нарэчаньку», «Падыспань» і «Карапэта»...

Не тыя песні чуваць са сцэны? Але як хораша ў тым жа саўгасным клубе паміж песнямі рэпертуарнымі, песнямі «для раённай сцэны» спяваюцца песні «для сябе» і сярод іх — «Верасы», «Мяцеліца», «Зялёны дубочак», у якіх свая вясковая мова, свае вобразы, па-свойму настроеная мелодыя.

— Маладым цяпер паспрабуй разбярыся, дзе сваё, а дзе чужое. За акіянам спяваюць, а ў Неглюбку далятае. З гэтага віру цяжка на свой бераг выбірацца. І хто дапаможа?..

А дапамагчы ёсць каму. Школьным і сельскім харамі ў Неглюбцы кіруе настаўнік Васіль Васільевіч Савасцянок. Цэняць яго ў вёсцы. Як баяніста, арганізатара самадзейнасці, чалавека са спецыяльнай музычнай адукацыяй. Дык ці не ён, Васіль Васільевіч, і абавязаны не проста акампаніраваць на баяне, а прывіваць моладзі высокі мастацкі і грамадзянскі густ, падтрымліваць і множыць любоў моладзі да нацыянальнага мастацкага скарбу, з гэтай думкай вучыць маладых людзей спяваць і ў роднай хаце і на канцэртнай сцэне. Партыя клапоціцца аб развіцці нацыянальнай культуры, стварае ўсе ўмовы для мастацкай самадзейнасці. У сённяшняй Няглюбцы нямала спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, інтэлігенцыі, якую таксама не можа не хваляваць мастацкае выхаванне моладзі. А інакш...

Інакш Неглюбку можа спасцігнуць лёс пакінутых моладдзю вёсак, бо мае рацыю Рыгор: патрыётам вёскі чалавека робіць не толькі хлебны колас ды новы клуб, але і матчынымі рукамі вышываны ручнік, бацькам змайстраваная гармонь, з дзяцінства родная да слёз песня.

Інакш будуць тужыць маладзіцы без мужыкоў, якія недзе за Мурманскам гадамі ловяць рыбу, забыўшы, што ёсць у іх родная хата, родныя дзеці. Вясковыя дзяўчаты будуць праўдамі і няпраўдамі прабівацца на сцюардэсы, абы адарвацца ад вёскі...

Мы пакідалі Неглюбку.

Аказваецца, адно выехаўшы за вёску, можна па-сапраўднаму разгледзець, якая яна вялікая, як прыгожа раскінулася па ўзгорках, пад халоднымі пакуль што буслінымі гнёздамі. Выспаўшыся, бадзёра ззяла сонца, і шыбы ў хатах блішчалі наглянцаванымі люстэркамі, а за самым высокім узгоркам, за іскрыстымі шыфернымі дахамі, на небе запальваліся барвовыя, ружовыя, аксамітавыя дугі вясёлкі. Вясёлка сярод зімы?.. Сярод зімы! Сярод белых снягоў.

А ў сэрцах мы з Рыгорам везлі іншую вясёлку, такую ж нечаканую, яшчэ прыгажэйшую, сатканую не выпадковымі з'явамі прыроды, а рукамі неглюбцаў, іх тонкімі мастацкімі душамі.

Вясёлка над вёскай пагасла хутка, як і ўспыхнула. А тая, другая, была несмяротная.

□

Калі ехаць аўтобусам, дарога з Неглюбкі ляжыць праз Ветку, а ў Ветцы стаіць хата Фёдара Рыгоравіча Шклярава і яе не абыдзеш таксама, бо тут — як бы працяг мастацтва неглюбскіх ткачых. Доўгія гады, робячы мастаком на мясцовай ткацкай фабрыцы, Шкляраў вывучаў народнае ткацтва, шукаў яго лепшыя ўзоры і з гэтым клопатам скалясіў безліч прасёлкаў. Не знайшоў узораў ткацтва больш маляўнічых і строгіх, больш складаных і па-сапраўднаму беларускіх — пачаў неглюбскія карункі перакладаць на фабрычныя дываны і габелены, посцілкі і абрусы.

— З беларускім ткацтвам я добра знаёмы. І з рускім, — гаворыць Фёдар Рыгоравіч. — І перакананы, што Неглюбка — гэта унікальны запаведнік па ткацтве, роўнага якому няма.

Запаведнасцю дыхае і хата Шклярава. Уся, ад падмурка, на якім ляжыць кругавы разны грабянец, і да вільчыка, дзе раскінуў крылы нацэлены ў палёт голуб, — уся яна саткана з карункаў, апранута ў мелодыю дрэва і фарбаў, абсаджана вытачанымі з таго ж дрэва галубамі і сініцамі, распісана пад колеры ўсіх чатырох пор года. Я ўжо чуў ад веткаўчан, як хату Шклярава называлі шкатулкай, і мне няма чаго дадаць да гэтага параўнання, бо ў Ветцы (а тут па дрэве спрадвек было нямала цудоўных майстроў і толькі лепшыя з іх, сапраўдныя мастакі, рабілі шкатулкі) яно гаворыць пра многае. Шкатулка здаецца казачнай і пры першай сустрэчы з ёю авалодвае не зусім прыстойная, хоць і ціхая, спакуса прасунуць нос у самую казку. З гэтым адчуваннем я ўваходзіў у хату, і яно не падвяло. Праўда, цяжка было адразу ўладкаваць у галаве

Нарысы першы і другі — у нумарах 28 і 30 за 10 і 24 красавіка г. г.

столькі ўражанняў. Яшчэ там, у думках, жыла Неглюбка, яе ручнікі і песні, гармоні і буслянкі, яе гаворка і твары людскія, а побач з усім гэтым светам ужо адкрывалася мастацтва Фёдара Рыгоравіча Шклярава, яго талент выразаць з дрэва шкатулкі-хаты і не толькі іх, у карэньчыках дрэваў бачыць скульптурна літыя вобразы, з вераю ў дабрату вясны і сонца пісаць жывапісныя палотны, рэстаўрыраваць старадаўнія іконы, збіраць рэчы далёкіх продкаў (рукапісныя кнігі, самавары, лампадкі...), яго прафесіянальная любоў да неглюбскага ткацтва. Акрамя таго... Ён прачыніў мне раптам дзверы ў гісторыю свайго краю, а там, у далечыні, выразна відаць было нічым не пахіснутую сувязь часоў, і мастацтваў. Аказваецца, Неглюбка не існавала ў сваім мастацтве асобна, ізаляваным востравам. Проста яна была унікальнай па ткацтве, як, скажам, па-суседстве Свяцк спрадвек славіўся сваімі куфрамі. Раслі дзяўчаты, а маляўніча зробленыя, тонкімі карункамі аздобленыя свяцкія куфры ўжо стаялі ў бацькавых хатах, збіралі пасаг не ў адным Свяцку. Побач разрасталіся вёскі, і там развіваліся іншыя мастацтвы. Ёсць вёска, дзе жылі вялікія спецыялісты па чыгунным ліцці (мне давялося бачыць рукамыйнік такога ліцця — на два ражкі з супрацьлеглых бакоў, кожны з якіх быў выліты ў форме птушынай галавы з разяўленай дзюбай); а ў другой вёсцы рабілі мастацкую кераміку; а яшчэ ў адной вёсцы працвітала чаканка па метале; а яшчэ ў адной пісалі іконы, выкладаючы фон золатам і серабром. Нямала вёсак славілася сваімі каменшчыкамі. Мне прыгадваецца блізкая адсюль Грабаўка з суседняга Гомельскага раёна, дзе бываў раней. Яе каменшчыкі будавалі Маскву і Пецярбург, Пскоў і Ноўгарад, Гомель і Адэсу — усіх гарадоў і не пералічыш. А галоўнае — яны будавалі Маўзалей Уладзіміра Ільіча Леніна. Башлакоў Арцём, адзін з іх, нават рэстаўрыраваў Спаскую, Нікольскую, Сенацкую, Арсенальную, Троіцкую вежы Крамля маскоўскага.

— Былі ў нашым краі і вёскі з марскімі прафесіямі. Скажам, Галоднае, — кажа Шкляраў. — Працавалі па рэках, на моры. Народ быў моцны...

Тут спрадвек глыбокія карэнні пускала вальнадумства. Каб прымусіць край падпарадкоўвацца дзяржаўным законам, не раз наведвалася царскае войска. У 1772 годзе тут хаваўся ад царскай кары Амяльян Пугачоў. У сваёй працы «Гісторыя Пугачова» пра гэта пісаў яшчэ А. С. Пушкін: «З паказанняў самога Пугачова ў канцы 1772 года, прыведзеных у канцылярыі палацавых спраў, вядома ўжо было, што пасля сваіх уцёкаў хаваўся ён за польскай граніцай, у раскольніцкай слабадзе Ветцы». І там жа — што жыў Пугачоў у Ветцы пятнаццаць тыдняў.

Дык ці не гэтым вальналюбствам і сілай духу народнага быў вызначаны росквіт тутэйшых мастацтваў? Ці не такім жа беглым вальналюбам, як Амяльян Пугачоў, быў і той казак, які, паводле падання, заснаваў Неглюбку, даў пачатак яе мастацтвам і рамёствам? Як бы там ні было на самой справе, безумоўна адно: вольналюбівая паэтычная душа народа знайшла ў неглюбскім мастацтве, асабліва ў ткацтве, сваю класічную песню самавыяўлення. «Узяў я неглюбскі ручнік, — прызнаваўся мне Фёдар Рыгоравіч, — малюнак з яго перазняў і павёз у Мінск на мастацкі савет, каб зацвердзілі для фабрыкі. Адразу мне прэмію далі, як за высокамастацкі твор, хоць перазняў узор у адным колеры, а неглюбцы ж ткуць па ім аж у сямі колерах...»

За акном свяціла сонца. Яно, ўсё ж, хілілася ўжо больш да вясны, як да зімы. І па-вясноваму весела са сцен глядзелі пейзажы Федара Рыгоравіча. У гаспадара настрой быў таксама вясновы. Ён расказваў пра любоў да лірычна-ціхай Веткаўшчыны, дзе сама прырода і гісторыя прымушаюць жыць «нетаропка, але з сэнсам».

— Учора з сынам пайшлі на Сож. Паглядзець, як там вясна, ці паказваецца. Снягі ляжаць глыбокія. Дык мы ўзялі і вытапталі слядамі «Прывет вясне»....

Слухаю, а сам адчуваю, што на гэтым паездкі мае сюды не скончацца, што неўзабаве мяне зноў паклічуць прачыненыя ў Ветцы дзверы. Ужо ў думках спелі новыя падарожжы па незнаёмых пакуль што вёсках, дзе захаваліся і жылі кладоўкі мастацкага ліцця, керамікі, старадаўніх ікон, чаканкі....

Дарогі гэтыя для мяне яшчэ не былі пазначаны верставымі слупамі, але ўжо набухалі, пахлі вясною, цёплым жвірам, трыпутнікам на свежай тоненькай ножцы.

# САМ-НАСАМ З ПРЫРОДАЙ

## ДРЭВА-ВЕТЭРАН



КАЛІ глядзіш на гэты вяз, здаецца, што прырода завязвала на яго галінках вузялкі на памяць. Потым яна забыла пра гэта, а вузялкі так і засталіся. Ішлі гады. Дрэва пастарэла, сукі сталі яшчэ болей вузлаватымі...

Неяк з Валянцінам Шэраметам, друкаром Маладзечанскай друкарні «Перамога», заўзятым аматарам прыроды, мы прыйшлі ў адведкі да ветэрана. Быў светлы вясновы дзень. Тонкія бярозкі, нібы дзяўчаткі-падлеткі, глядзеліся ў люстэркі лужын, свавольны ветрык расчэсваў іх зялёныя косы. Кволыя ліпкія лісточкі ўжо трапяталіся на асінах і вольхах. Лес прымяраў вясновы ўбор. Але дрэва яшчэ трымала ў чахлах свае зялёныя сцягі.

Здалёк нас прыкмеціла зязюля і, калі мы наблізіліся, бясшумна нырнула ў гушчар.

— Дык вось каму яна зычыла доўгае жыццё!—усміхнуўся Валянцін.— Значыць, яшчэ доўга будзе стаяць дрэва. Гадкоў трыста з гакам відаць мае... Жывы помнік творчасці прыроды.

Потым мы сядзелі на пнях. Ціха, задуменна шумелі сосны. Унізе па іх ствалах нядаўна прайшоўся падсочнік: са свежых слядоў ад струга сачылася бурштынавая жывіца... Плакала сасна. У чаромхавым гушчары спрабаваў голас салавей. Яму адгукнулася зязюлька..

Стаіць стары вяз кіламетраў за пяць ад Радашковіч, на беразе маленькай звілістай рачулкі Удры. Вада халодная, як лёд нават у самыя спякотныя дні, і таму ўпадабала гэтую рачулку фарэль. Да таго ж лес тут грыбны, улетку людны: стары вяз усім відаць. Любуюцца людзі яго «архітэктурай», у дупле хаваюцца ад дажджу.

Зычыць зязюля доўгае жыццё старому дрэву. Але яе пажаданні могуць не збыцца, калі не будзе берагчы яго чалавек.

Варта было б работнікам мясцовага лясніцтва прымацаваць да унікальнага дрэва таблічку з «анкетнымі даннымі», якая напамінала б людзям аб тым, што дрэва трэба берагчы.

## ЛЕКАВЫЯ ГНЁЗДЫ



—ОГО, колькі гнёздаў! Цэлая калонія гракоў пасялілася,—сказаў мой знаёмы, калі я паказаў яму здымак. Потым ён прыглядзеўся, задумаўся: няўжо гракі робяць гнёзды так нізка?

Гэта была амяла. Шаравідныя кусты яе даволі часта можна ўбачыць на таполях, бярозах, нават на садовых дрэвах. Добра прыжылася амяла ў Белавежскай пушчы. Праўда, сфатаграфаваць яе там не ўдалося. Гэты здымак зрабіў я на Палессі, недалёка ад Лунінца.

Амяла — шаравідны кустарнік, з галінкамі, падобнымі на вілы, невялічкімі тоўстымі лісткамі. Рана вясной, калі яшчэ не распусцілася дрэва, амяла цвіце. У пачатку лета паспяваюць сакавітыя белыя ягады — ласунак для птушак. Ягады ў амялы клейкія, і калі птушкі чысцяць дзюбы аб кару, на ёй застаюцца зярняткі. Яны прарастаюць, прабіваюць кару, нібы п'яўкі, прысмоктваюцца да ствала.

Амяла — паразіт. Жыве сокамі дрэва, на якім пасялілася. Расліна мае гаючыя ўласцівасці. Для лячэння гіпертаніі медыкі раяць экстракт «Амялен». Прэпарат «Акафіт», у састаў якога ўваходзіць настойка са свежых лісцяў амялы, выкарыстоўваецца для лячэння радыкулітаў і іншых нервовых захворванняў.

Шырока карыстаецца амялой народная медыцына. Адвар амялы з бярозы п'юць пры павышаным ціску крыві. Адвар амялы з граба, дуба і сасны памагае лячыць раматус, сэрца.

Вось яна якая — амяла. Сапраўдная прыродная аптэка.

## ЗЯЛЁНАЯ ЛІРА



СТАЯЎ верасень сорак трэцяга года. Ужо чырванелі макаўкі асін, бяроз, клёнаў. А навокал грымела вайна. Гарэлі вёскі. Адступаючы, фашысты нішчылі ўсё, што маглі. Фронт наблізіўся да ракі Бесядзь. Завязаўся бой за вёску Белая Дуброва. Над лесам праносіліся самалёты, гухкалі выбухі. За некалькі метраў ад сасонкі разарваўся снарад, — асколак зрэзаў макаўку, рассек ствол.

Сонца кацілася да заходу, калі да сасонкі падпоўз баец. Ён хуценька вырыў акоп, зняў каску, закурыў. І тут убачыў параненае дрэўца. На ствале сасонкі застылі кроплі смалы. У промнях сонца яны чырванелі, нібы кроў... Салдат дастаў бінт, звязаў ім паранены ствол.

— Расці вялікая! — сказаў ён

І сасна вырасла. Толькі зараз у яе чатыры ствалы.

Гісторыю гэту расказаў знаёмы ляснік, дзядзька Аўхім.

— Мне здаецца, што сасна старэйшая... Мо з ёй шчэ да вайны што здарылася,—заўважыў я.

— Ну, што ты...—пакрыўдзіўся ляснік.— Яна проста ў камлі таўставатая. А ствалы ж тонкія. Ды і не дужа высокая... Ёй і сарака няма. Саўсім маладуха А камель, бачыш, наліўся... Бо цяжка ж трымаць. Чатыры ствалы. Гэта табе, браце, не хаханькі...

Я не стаў спрачацца з дзядзькам Аўхімам. Мо, сапраўды яно так і было.

Л. ЛЯВОНАЎ.
Фота аўтара.

# Джэд Кайлі

# ХЭМІНГУЭЙ

## УСПАМІНЫ СТАРОГА ТАВАРЫША

## МУЖЧЫНЫ БЕЗ ЖАНЧЫН

Аднойчы раніцой Эрнест пачаў малаціць па нашых дзвярах. Мы з Флойдам Гібансам страшэнна хацелі спаць. Але пасля такога грукату — які ўжо сон! Калі яго не пусціць, сарве дзверы з завесаў. Ніколі я не сустракаў яшчэ чалавека, у якім было б столькі энергіі. Справа была ў маі. Мы знаходзіліся ў тропіках, дзе людзі не вельмі любяць спяшацца. Але Хэмінгуэй не такі. Дзе б ён ні быў, ён шукае справы. І ён яе заўсёды знаходзіць. Таму мы з Гібам падняліся і пайшлі з ім рыбачыць.

Якта належала Гібансу, прылады — Эрнесту. На борце было пяцёра мужчын без жанчын: капітан, нас трое і туземец для насадкі прынады. Эрнест хацеў было ўзяць з сабой свайго памочніка кубінца, але зрабіць гэтага было немагчыма. Хлопец стаміўся пасля шматдзённай гайданкі, і яго нельга было вінаваціць у тым, што ён застаўся ў пасцелі. Ён сказаў, што трэба рамантаваць рулявое кіраванне.

Калі вы выходзіце з гавані Біміні ў мора, дык праплываеце міма напалову затопленага корпуса буйнага грузавога судна. Гіб вырашыў, што там самае ўдалае месца для лоўлі. Я таксама так лічыў. Але ў Эрнеста былі іншыя намеры.

— Вы дзе знаходзіцеся? — сказаў ён. — Тут вам не возера Мічыган. Мы будзем лавіць тунца, а не вкунёў.

Што датычыцца нас з Гібам, дык мы з ім лавілі тунца толькі ў кансервавай банцы. На гэты раз вывудзіць яго будзе цяжэй. Мяркуючы па часе, які спатрэбіўся нам для таго, каб дабрацца да месца, я было ўжо вырашыў, што мы ідзём у Майямі за сэндвічамі з тунцом. Мы адышлі ад Біміні амаль на цэлую бутэльку, калі яхта пачала сцішваць крок. Але ўсёроўна прагулка падалася цудоўнай. Мора аціхла, паміж пальмамі на востраве падымалася сонца. Карціна нагадвала каляровую паштоўку, якія прадаюць у Майямі.

Тут Эрнест пачаў зашпільваць на мне рыбалоўную збрую. Гэта нешта накшталт уціхамірвальнай сарочкі, якая акоплівае пояс і плечы і мае гняздо для вудзільна. Паглядзелі б вы, што гэта было за вудзільна! Тоўстае, як вешалка, са шпулькай, велічынёй з шарманку. А важыла з тону, не менш. Наматаная на шпульку леска нагадвала тэлефонны кабель. Мяркуючы па памерах шпулькі, на ёй, відаць, было наматана некалькі міль лескі. А калі я зірнуў на прынаду, дык вырашыў, што ўжо спаймаў рыбіну. Такой я яшчэ ніколі на кручок не чапляў. Яна, напэўна, важыла фунты тры-чатыры і была насаджана на трайны кручок, накшталт тых, што вісяць у мясных крамах. Памерам з кулак. Я падумаў, ці не разыгрывае ён мяне? Бо рыбалоўны кручок невялікі, памерам са шпільку з завусеніцай, якая вечна чапляецца за штаны. Не хацеў бы я, каб мне ў штаны ўпіўся вось гэты кручок.

— Мы што, сланоў будзем лавіць? — пацікавіўся я.

— Жарты пакінь пры сабе, — сказаў Хэмінгуэй. — Гэтая прылада каштавала мне дзевяцьсот манет. Упусціш — з дна прымушу даставаць.

З гэтымі словамі ён шпурнуў у мора прынаду і палез на верхні мосцік, каб з вышыні птушынага палёту назіраць за рыбай. Гібанс сядзеў поруч са мной, гатовы даваць каштоўныя парады. У глыбакаводным лове рыбы ён петрыў прыкладна столькі ж, колькі і я, так што мы абодва былі варты адзін аднаго.

— Я табе скажу, калі пачнецца, — папярэдзіў Эрнест.

Вы толькі паслухайце яго. Ён скажа, калі пачнецца. Як ён даведаецца? Што, у яго вадалазная маска ці што? Ці дно ў яхты шкляное? А можа ў яго там рэнтгенаўскі апарат, пры дапамозе якога ён бачыць рыбу ў цёмнай, зялёнай вадзе? Тут жа глыбіня не менш мілі. Потым ён сказаў, каб я зняў зашчапку са шпулькі, калі адчую, што нехта чапае прынаду, і не ўздумаў тузаць вудзільна, пакуль не палічу да дзесяці.

— Хай яна праглыне прынаду, — сказаў ён.

Адкуль я даведаюся, што рыба праглынула прынаду? — падумаў я. Хіба я доктар ёй і папрашу яе сказаць «А-а». І тут я ўбачыў нешта белае. Я нічога не адчуў, толькі заўважыў усплёск. Гібанс таксама гэта заўважыў.

— Злавіў, круці шпульку! — закрычаў ён.

Я тузануў вудзільна так рэзка, што трэснуў сябе па ілбе. Але рыбіну падсек. Я бачыў, як яна выскачыла з вады, і пачаў круціць шпульку.

— Гэта ж прынада, — сказаў Эрнест. — Мы ж цягнем яе па самай паверхні вады.

Ён меў рацыю, ва ўсякім разе, на гэты раз. Я паправіў леску, ўбачыў, што прынада, быццам жывая рыба, плыве за намі. Я добра прыгледзеўся да яе, каб не памыліцца ў наступны раз. На гэты раз зверху зароў Эрнест:

— Сачы ў абое! Пара буйных рыбін забаўляецца з прынадай!

І тут я штосьці адчуў. Слабае патузванне. Не можа быць, каб гэта буйная рыбіна. Патузванне паўтарылася. Я адкінуў зашчапку, пачаў страўліваць леску, прыняўся лічыць. Спадзяюся, я не вельмі спяшаюся, падумаў я. Як і ў час накаўціравання Дызраэлі, я лічыў павалі, па-чыкагску. На дванаццаці я зашчоўкнуў сабачку і з усіх сіл падсек.

Што тут было! У адказ мяне тузанула так, што я ледзь не зваліўся за борт з усімі прычандаламі. Вы б толькі пабачылі, як пачала разматвацца леска. Расцягнулася аж да самага Кітая. У наступны момант Эрнест быў каля мяне і крычаў:

— Трымайся! На кручку ў цябе чвэрць тоны рыбы! Хай, хай падурэе!

Каб выратаваць уласную скуру, я трымаўся за вудзільна моцна. Леска разматвалася так хутка, што пачала дыміцца. Эрнест схапіў жбанок з ледзяной вадой і пачаў ліць на шпульку.

— Як толькі крыху аслабне, цягні яе і адразу матай леску на шпульку

Праз некаторы час (як мне падалося — праз многа гадзін) леска аслабла. Пэўна, рыба дакранулася дна, падумаў я. Шпулька разматалася на тры чвэрці, а даўжыня ўсёй лескі была чатырыста ярдаў. Гэта азначала, што глыбіня тут была роўнай вышыні небаскроба Эмпайр стэйтс білдынг. Цяпер мне заставалася адно: выцягваць здабычу. Падняцца пешкі на самы верх небаскроба было б значна лягчэй.

Круціць шпульку — само па сабе — справа не цяжкая. Але круціць левай рукой было суцэльнай пакутай. Я трываў, колькі мог, а пасля папрасіў літасці. Гавораць, я скрыпеў дваццаць пяць хвілін. Пакуль я аддыхваўся, Хэмінгуэй узяў вудзільна і, упершыся нагамі ў палубу, пачаў выцягваць майго кіта з такой лёгкасцю, з якой спінінгіст выцягвае з горнай рэчкі фарэль. Я з паўгадзіны назіраў за ім. Потым усё пайшло як па маслу. Эрнест працаваў, як лакамабіль. Вось гэта левая!

— Яе насцігаюць акулы — сказаў ён.

Зноў узяўся за свае прароцтвы. Рыба якіх-небудзь сто футаў ад нас, а ён гаворыць, што на яе нападаюць акулы. Ці не пажартаваць над ім, пакуль у яго рукі занятыя, падумаў я? У Гіба, відаць, мільганула такая ж думка.

— А ты адкуль ведаеш? — спытаў ён.

— Усё вельмі проста, Гіб, — сказаў я. — Містэр Хэмінгуэй і місіс Рыба перамаўляюцца паміж сабой пры дапамозе азбукі Морзе. Рыба выстуквае SOS па тэлеграфным провадзе, а містэр Хэмінгуэй прымае сігналы з другога канца.

— Так точна, — сказаў Эрнест, раз'ятрана круцячы шпульку і водзячы вудзільнам. Круціць яму, відаць, было намнога лягчэй, чым мне. Леска намотвалася амаль з такой жа хуткасцю, як і разматвалася. Я вырашыў праявіць ініцыятыву і стаў ліць на шпульку халодную ваду, але за ўсё гэта атрымаў кухталя.

Пасля пачалося самае цікавае. Эрнест падцягнуў



здабычу амаль да паверхні вады. Гэта і сапраўды быў тунец, і які тунец! Што твой кіт! Ён быў не адзін. Яго суправаджалі тры ці чатыры рыбіны такой жа велічыні. Толькі яны кідаліся на яго і шчоўкалі зубамі, быццам галодны чалавек на сэндвіч з тунцом.

Марскі тэлеграф не хлусіў, падумаў я. Капітан і наш індзеец схапілі доўгія, унушальнага выгляду восці і ўзяліся за справу. Мы з Гібам схаваліся ў засадзе.

Гавораць, акуле нізавошта не справіцца з буйным тунцом, калі толькі ён не паранены альбо не падчэплен на кручок. Але як толькі рыба становіцца бездапаможнай, справа набывае іншы паварот. Адзіны, хто мог дапамагчы тунцу, гэта Хэмінгуэй. І вы б паглядзелі, як ён адводзіў гэтую вялікую рыбіну ад акул! Пасля ён гаварыў, што непакоіўся, каб акулы не перацерлі леску. Скура ў іх шорсткая, як наждачная папера. Калі акула да вас толькі дакранецца, на скуры застанецца крывавая рана.

Нарэшце, мы падчапілі тунца на вялікі крук і пачалі падымаць лябёдкай. У яго быў вырваны кавалак фунтаў на пяцьдзесят. Напэўна, тады, калі тунец адпраўляў тэлеграму Хэмінгуэю, вырашыў я. Рыба ўжо вісела ў паветры, як раптам адна з акул падскочыла ўверх футаў на пяць і ўпілася зубамі ў тунца, быццам гэта быў круг сыру. Шчэлепы акулы ляснулі, нібы стальны капкан. Вось гэта зубкі! Вось гэта тунец! Даўжыня яго дасягала дзесяці футаў, а важыў ён і цяпер фунтаў пяцьсот.

Я быў вельмі задаволены сваім уловам. Бо ўрэшце падчапіў яго я. Індзеец прынёс кожнаму па шклянцы, каб адзначыць падзею. Але Хэмінгуэй быў невясёлы. Ён выпіў, але сказаў, што ненавідзіць акул. Туземец таксама іх ненавідзеў. Усё пагражаў кулаком. А хто іх любіць? — падумаў я. Драпежніцы кружыліся вакол яхты, чакаючы, пакуль мы зноў закінем кручок. Пры адным поглядзе на іх кідала ў дрыжыкі. Але Папа Хэмінгуэй пакінуў іх з носам.

— Рыбачыць тут дарэмна, — сказаў ён. — Я вам, сухапутныя пацукі, пакажу, што такое сапраўдны мужчынскі спорт. Мы зараз вернемся назад і закопім інструмент. У нас з вамі пяцьсот фунтаў прынады. Будзем паляваць на акул.

Які ж спатрэбіцца кручок, падумаў я, каб начапіць тунца замест прынады? Вудзільна павінна быць з тэлефонны слуп, не кажучы пра тое, што замест лескі спатрэбіцца двухдзюймовы трос. Але нічога не сказаў. Калі рыбачыш з Хэмінгуэем, гаварыць шмат не даводзіцца.

Аднак на зваротным шляху ён нам расказаў, што, калі яму споўнілася два гады, бацька падараваў яму вудачку, а калі споўнілася дзесяць гадоў — двухстволку.

Зваротнае плаванне было суцэльнай асалодай. Калі б не залітая крывёй палуба, можна было б падумаць, што мы сядзім у якім-небудзь утульным бары. Бачылі б вы ў той дзень Папу. На ім былі толькі запэцканыя крывёю шорты, на шчоках вылезла неахайнае шчаціннe. Тунец — рыба з чырвонай кроўю, і Эрнест настолькі перапэцкаўся ў крыві, быццам сам быў тунцом. Вы б нізавошта не палічылі яго пісьменнікам. Ва ўсякім выпадку, я не лічыў яго пісьменнікам.

— Я чуў, ты заявіў карэспандэнту даведніка «Хто ёсць хто?», што твае любімыя заняткі — рыбная лоўля, паляванне і выпіўка? — спытаў я яго

— Так точна, — сказаў ён. — Але ён замест гэтага напісаў «рыбная лоўля, паляванне і чытанне».

— Гавораць, ты палучыў сто кавалкаў за права экранізацыі «Бывай, зброя!»?

— Так, толькі сто,—адказаў ён.—Трэба было запрасіць дзвесце.

«Толькі сто». Скажа таксама. Можна падумаць, што сотня тысяч—гэта раз плюнуць. Для Гіба гэта было занадта. Ён спусціўся ў каюту, каб падрамаць. Я таксама здорава стаміўся. Калі куды-небудзь адпраўляешся з Хэмінгуэем, мора, сонца і ўзбуджэнне асабліва стамляюць. Але ён быў свежы, як агурочак. Узяўся прыводзіць у парадак рыбалоўныя прычандалы, пакуль мы з ім балбаталі. І, відаць, рабіў гэта з задавальненнем. Салёнае паветра ён уцягваў у ноздры прагна, быццам стары марскі воўк.

— Як табе спадабалася карціна?—спытаў я.

— Якая?

— «Бывай, зброя!».

— Я яе не глядзеў,—сказаў ён.

— Што?—здзівіўся я.—Не глядзеў сваёй карціны?

— Вось іменна.

— Чаму ж?—спытаў я.

— А навошта?—сказаў ён.—Варта схадзіць туды, і пачнеш пісаць, быццам глядзіш праз аб'ектыў кінакамеры. Думаеш толькі аб карціне, замест таго, каб думаць пра людзей. Трэба жыць жыццём сваіх персанажаў, калі хочаш пісаць пра іх.

Дык вось у чым сакрэт, падумаў я. Ён жыве жыццём сваіх персанажаў. Вось чаму ён насіўся тады ў Парыжы са сваёй «графіняй». Яму было напляваць на яе. Ён проста накалоў яе на шпільку, як гэта робяць калекцыянеры матылёў. Хацеў пагледзець, якія ў ёй спружынкі-шасцяронкі. Я ўпершыню зразумеў, што галоўнае ў ім—дакладнасць. Падабаецца вам яго стыль альбо не падабаецца—гэта глупства. Важна тое, што ён ведае, пра што піша, і вы гэта ведаеце. Ён не пісьменнік-празаік. Ён—рэпарцёр эмоцый. І ён ніколі не піша аб той эмоцыі, якой сам не перажыў.

Узяць, напрыклад, «Бывай, зброя!». Кніга пра італьянскую армію. Што ж, ён павінен сёе-тое ведаць пра яе. Яго самога параніла, калі ён знаходзіўся ў італьянскай арміі, ці не так? Гавораць, яго кнігі насычаны трагедыяй. Ну і што? Ён дастаткова доўга жыў насупраць могілак, каб ведаць, што такое смерць. А гэты, накшталт грабніцы, дом у Кі-Уэсце? Можа, таму ён у ім і жыве? Ён дастаткова часта сутыкаўся са смерцю, каб зразумець, што адчувае чалавек, калі надыходзіць яго чарга. І выхад у мора ў час шторму ў дохлым карыце даказвае яго прагу адчуць небяспеку. А яго сутыкненне з трыма забулдыгамі ў «Крывай лазні»? Магу пайсці на заклад, што калі пачалася бойка, ён перапалохаўся і захацеў уцячы з бара. Але ён не ўцёк, таму што жаданне спазнаць, як усё абернецца, аказалася мацнейшым, чым страх. Ён хацеў зведаць гэтае адчуванне, каб пасля апісаць яго. Гэта яго натура—жыць жыццём сваіх персанажаў. «Мець і не мець», як мне расказвалі,—гэта кніга пра аднаго хвацкага хлопца, накшталт таго, што разбіў шклянку ў гэтай бойцы. Выходзіць, ён выкарыстаў гэтага тыпа ў якасці падвопытнага трусіка.

Альбо зірніце на «Смерць папапудні». Вы зірніце. Я ведаю. Толькі дазвольце вам сказаць вось што. Гэта наконт іспанскіх тарэра, і, як кажуць, хлопец сам жыў сярод тарэадораў, каб пазнаёміцца з імі бліжэй, і не толькі. Ён навучыўся іх рамяству і выступаў на арэне. Нават закалоў быка. Гавораць, ён і сам быў моцна паранены. Навошта ж яму гэта спатрэбілася? А вось нашто. Ён трапіў быку на рогі, каб на ўласнай скуры адчуць, што адчуваюць пры гэтым матадоры ці як іх там. Ён такі чалавек, каб пра ўсё дазнацца з першых рук. Вазьміце «За ракой, у цені дрэў». Так, так, бярыце, калі вам ахвота. Я вам не пярэчу. Па праўдзе кажучы, я думаў, што гэтая гісторыя часоў грамадзянскай вайны пра Джэксана—«Каменная сцяна», калі яго падстрэлілі. Гавораць, што характар героя многімі рысамі нагадвае характар самога Хэмінгуэя. Гэта нешта накшталт псіхасамааналіза паміж радкоў. Сам я нізавошта не стану чытаць такія кнігі. Але яны для яго характэрны.

Альбо вазьміце яго раннія апавяданні. Вазьміце ўсе адразу. Але я спынюся на адным, пад назвай «Снягі Кіліманджара». Тая яшчэ назва. Можна падумаць, што гэта нешта пра зімовы спорт, ці не так? Я таксама так вырашыў. Нешта пра горналыжны спорт у Швейцарскіх Альпах. Дык не. Дастаньце веер, а то горача будзе. Гэта пра Афрыку. Акрамя жартаў. Вы чулі калі-небудзь пра тое, што ў Афрыцы ёсць снег? Я асабіста не бачыў, каб Богарт у «Афрыканскай каралеве» апранаў цёплую шапку і рукавіцы. А вы? Мне падалося, што на ім трапічны шлем і шорты. А можа, вочы мяне падвялі? Вы калі-небудзь бачылі паляванне на лыжах у карцінах з Марцінам Джонсанам? Альбо Фрэнка Бака, які на канях даганяе белага мядзведзя ў Сахары? Вось так.

Давайце разбярэм цяпер гэтае хітрае слова Кіліманджара. Гучыць амаль як «паддай яму пары!» Зноў і зноў спрацоўваюць старыя магільныя асацыяцыі. Смерць ніколі не пакідае гэтага хлопца ў спакоі. Ён заўсёды каго-небудзь забівае. А такія людзі, якія знішчаюць процьму народа, лічаць сябе вялікімі пісьменнікамі, накшталт Шэкспіра альбо Джэка Уэба. Толькі я нешта не бачыў, каб абодва гэтыя пісьменнікі дазвалялі сваім героям памерці ў пасцелі, як робіць гэта Эрнест у «Забойцах» і «Снягах». Гамлет і яго прыяцель Макбет не хаваліся пад коўдру. Яны біліся да апошняга раўнда, адбіваючыся кінжаламі альбо ядам. Памерці ў пасцелі... Хіба гэта нова? Сам бы аўтар не стаў валяцца на ложку. Хай і гэты Джара, ці як яго там, памрэ, як мужчына, а не ў споднікaх. Але паспрабуй, растлумач яму гэта.

Працяг. Пачатак у №№ 27, 28, 30.

Давайце подбегам перагартаем «Зялёныя пагоркі Афрыкі». Калі-небудзь чыталі? Я—не. Зноў стары фокус. Спачатку зялёныя пагоркі, а пасля белы снег. Гэта ў Афрыцы! Наблытаў ён нешта з назвай. Паглядзіце каляровыя фільмы з жыцця Замежнага легіёна. Зялёныя пагоркі—на самой справе жоўтыя пясчаныя барханы. Пэўна, проста пісаў ён зялёнай аўтаручкай.

Ну, хопіць літаратурнай крытыкі. Трэба і па поўсці яго пагладзіць, падумаў я.

— Выдатны ў цябе атрымаўся рэпартаж у «Смерці папалудні».

Штосьці мне падказвала, што гаварыць гэтага было няварта. У чалавека дзіўныя адносіны да пахвалы. Не любіць. Лічыць, што ты яму падтакваеш.

— Кінь,—сказаў ён.—Гэта гаворыш не ты. Галівуд. Як толькі ты даведаўся, што я атрымаў сто кавалкаў за «Бывай», ты пачаў думаць, што, відаць, я ўсё-такі ўмею пісаць. Я стаў пісаць ні кроплі не лепш, чым калі жыў каля могілак. Проста—зарабляю больш. Вось і ўсё.

Магчыма, так яно і ёсць, падумаў я. Калі ведаеш каго-небудзь занадта добра, не думаеш, што ён вельмі ўжо таленавіты. Проста таму, што ведаеш яго. А калі ў яго справы пайшлі на лад, пачынаеш думаць, што ён, пэўна, і праўда здольны. Я да гэтага часу невысокай думкі пра яго «Забойцаў». Мне раптам захацелася спытаць, што здарылася з гэтай рэччу, калі ён лічыў яе такой ужо добрай. Ён напісаў яе дзесяць гадоў назад, жывучы ў доме насупраць могілак, але я пра яе больш, здаецца, нічога не чуў. Такую штуку не прадасі кіношнікам, падумаў я.

Праходзячы міма затопленага парахода, мы заўважылі шыкоўную яхту, якая стаяла на якары. Мы павярнулі ў яе бок, каб зірнуць, хто да нас завітаў. Гэта было не судна, а карцінка. Я быў рады, што мы знаходзіліся не на борце Хэмінгуэя, а на «Авантурысце». Вышэй класам. Яхта была з падветранага боку, і мора было гладкае, як люстэрка. Гэта была не яхта, а цуд: чысціня, марскі парадак. Двое хлопцаў, раскінуўшыся ў крэслах, вудзілі. Побач з імі стаяў столік. У кожнага ў руцэ было па бакалу з віскі і содавай, а паміж імі—лёгкая вудачка, якую можна падняць адной рукой. Нічога не скажаш, уладкаваліся здорава. Што яны скажуць, калі ўбачаць залітага крывёю нашага пірата.

— Тыя яшчэ рыбакі,—сказаў ён.

Эрнест лічыў, што лоўля рыбы не закусь, ды яшчэ ў ціхай вадзе, дапушчальна толькі для птушак. Выключэнне складала лоўля для прынады.

Наш капітан выключыў маторы, і судна ішло па інерцыі. Рыбакі не паспелі нас заўважыць. Раптам адзін з іх закрычаў. Ён злавіў рыбіну. Але выбіраць шпульку не стаў. Не хацеў, відаць, выпускаць з рук бакал. Ён толькі тузануў на сябе вудачку,—і ўверх узвілася стракатая рыбка дзюймаў шэсць даўжынёй. Замест таго, каб зняць рыбку з кручка, ён, быццам ігрок, які робіць пас назад, павёў вудачкай. І тут мы здагадаліся, што азначаў яго крык. У ілюмінатары паявіўся чарнаскуры твар у белым поварскім калпаку, і ўмелая рука падхапіла леску. На сонцы бліснуў нож. Мы пачулі пах смажанай рыбы.

Для Хэмінгуэя гэта было занадта. Ён зароў так, што Гіб куляй выскачыў на палубу. Напэўна, вырашыў, што мы тонем. Двое смелых рыбакоў спакойна паднялі галовы. Мы ўсе трое адразу пазналі іх—гэта былі Донах'ю Кучаравы і Бен Фіні, нашы старыя сябрукі, вядомыя гулякі па гарадах накшталт Парыжа альбо Пальм-Біч.

— Вы паспелі якраз к сняданку,—сказаў Кучаравы.—Перабірайцеся да нас, выбірайце ежу на свой густ.

Мы прышвартаваліся да іх і неўзабаве атрымалі крэслы і непачатую бутэльку віскі. Вось гэта жыццё, падумаў я. Гібу тут таксама спадабалася. Ніякіх хваляванняў. Поўны камфорт. Эрнесту ўсё гэта прыйшлося не па густу, за выключэннем віскі, якое аказалася выдатнай насаўскай маркі. Ён нават не захацеў прысесці. А калі ўбачыў, якую прынаду кок насаджвае на кручкі, у яго вочы на лоб палезлі. Гэта былі палоскі чырвонай фланелі. Без жартаў.

Мы перагнуліся цераз борт. Глыбіня была футаў трыццаць—сорак, але было відаць нават дно. Сотні рознакаляровых рыбак вырывалі адна ў адной гэтую прынаду. Заставалася толькі падсякаць. Бен выхапіў з вады кручок са шматком фланелі.

— Якую ты хочаш на сняданне?—спытаў ён Гіба.

— Я аддаў бы перавагу вунь той, жоўтай,—сказаў Гіб.

Бен закінуў кручок, адвёў яго ўбок ад трох ці чатырох блакітных рыбак, якія наляцелі на яго. І тут клюнула жоўтая. На ўсё было затрачана секунд трыццаць. Быццам мы былі ў нью-йоркскім рэстаране, дзе падаюць рыбныя стравы і ловяць жывую рыбу прама ў басейне. Апісаўшы дугу, рыба трапіла прама ў руку кока.

Не паспелі мы заказаць абед, як яго падалі на стол. Вось гэта абслуга! А што за рыба! Эрнест сумна паківаў галавой, але, як я заўважыў, на апетыце яго гэта не адбілася. Мы з Гібам былі за тое, каб правесці тут увесь дзень. Але Эрнест запярэчыў:

— Раскіснеце!

Мы адшвартаваліся і паплылі да берагу, а нашы рыбакі ўсё яшчэ забаўляліся. Ставілі па дзесяць долараў, хто першы спаймае намечаную рыбу.

— Вось што робіць з людзьмі багацце,—сказаў Хэмінгуэй.

— Хай тое самае яно робіць са мной,—сказаў я.—Я не пярэчу.

— Я таксама,—падтрымаў мяне Гіб.

Калі мы прычалілі, на беразе нас чакаў сапраўдны прыём. Усякі раз, калі Папа вяртаецца, яго сустракае ўсё насельніцтва вострава. Астравіцяне кінуліся нам памагаць, зацягнулі тунца на вагі. Я сфатаграфаваўся побач з ім разам з нашым памочнікам-індзейцам, прычандаламі і ўсім іншым. Тая яшчэ атрымалася фатаграфія. І рыбіна аказалася тая яшчэ. Пацягнула пяцьсот дваццаць фунтаў.

Эрнест прапанаваў туземцам узяць сабе рыбы, хто колькі хоча. Такога тунца на цэлы год хопіць, падумаў я. Атрымаецца не менш мільёна сэндвічаў. І што ж вы думаеце? Яны адрэзалі вузкую палоску філе вагой усяго ў некалькі фунтаў. Якая марная трата, падумаў я. Але Эрнест растлумачыў, што ў гэту пору года мяса ў тропіках не вельмі добрае. Для кансервавання рыбу трэба лавіць у халодных водах. Але ён ведае, сказаў ён, каму гэта мяса прыйдзецца па гусце.

— Каму ж?—спытаў я.

— Акулам,—сказаў ён.—Мы пададзім ім гэтую страву пад свінцовым соусам.

## СМЕРЦЬ ПАПАЛУДНІ

Я пачаў разумець, што да чаго, калі да кармы яхты прычапілі драўляны плот і сталі прывязваць да яго нашага тунца. Потым я ўбачыў, што за «інструмент» ён меў на ўвазе. Ён дастаў яго з уласнага бота. Той яшчэ «інструмент». Адным «інструментам» быў абрэзаны самазарадны драбавік, які змахваў на гаўбіцу. Замест карцечы патроны былі набіты стальнымі шарыкападшыпнікамі памерам з кулю 0,45 калібра. Калісьці ён належаў гангстэрам. Аднаго з такіх шарыкаў было дастаткова, каб ваша імя трапіла ў газеты.

Другі інструмент уяўляў сабой аўтамат сістэмы Томпсана. Ён выплёўваў за мінуту шэсцьдзесят куль калібра 0,45 дзюйма. Аўтамат таксама быў адабраны ў гангстэраў у адным горадзе і перададзены адной асобе. Звестак пра тое, колькі «хлопцаў» ён адправіў на той свет, не маецца. Ва ўсякім выпадку, выгляд у яго быў злавесны. Трэцяй «прыладай» лову быў аўтаматычны пісталет сістэмы Кольта. Побач з абрэзам ён выглядаў дзіцячай цацкай. Слаўны пачастунак атрымаюць акулы, падумаў я.

Калі мы накіраваліся ў адкрытае мора, насельніцтва Біміні праводзіла нас радаснымі крыкамі. Наўрад ці знойдзеце вы каго-небудзь, хто б так ненавідзеў акул, як туземцы. Не лічачы Хэмінгуэя. З плоту, які мы ўзялі на буксір, сцякала кроў. «Гэта тэлеграма акулам з запрашэннем на абед,—растлумачыў Хэмінгуэй.—Яны чуюць пах крыві за цэлую мілю. Гэтак жа ясна, як мы з вамі чуем званок на абед». У нас з сабой было дастаткова боепрыпасаў як у мокрым, так і ў сухім выглядзе, і мы з асалодай уяўлялі час расплаты, які надыдзе папалудні.

Флойд Гібанс узброіўся абрэзам, Эрнест—аўтаматам, я ўзяў сабе кольт. Не хвалячыся, скажу, што я выдатны стралок з пісталета. Менавіта таму я і выбраў кольт. Каб паказаць хлопцам, што такое трапная стральба.

Праз паўбутэлькі акулы пачулі здабычу. Кругом былі відаць хрыбетнікі драпежнікаў, якія ўляглі за намі. Мы прыгатаваліся да сустрэчы гасцей. Эрнест з Гібам, захапіўшы сваю зброю, забраліся на мосцік, апынуўшыся нада мной. Я застаўся на кармавой палубе і, насунуўшы на вочы брыль фуражкі, уладкаваўся ў крэсле зручней. Чым не першы рад партэра?—падумаў я.—Ды і да цэлі бліжэй. Эрнест аддаваў апошнія распараджэнні перад боем.

— Ты толькі не ўставай,—сказаў ён.

Вы падумайце! Чаго я буду ўставаць, калі ззаду ў мяне гэтыя забойцы з гангстэрскай артылерыяй? Што я, звар'яцеў? Магчыма, рыбак з мяне не вельмі, але ж у стральбе я сёе-тое кумекаю.

Між тым госці нашы сабраліся. Мы далі ім магчымасць прагуляцца за намі пэўны час, затым збавілі хуткасць да самай малой. Вакол плоту кружылася з дзесятак драпежнікаў. Прыглядаліся. Часам якая-небудзь з гэтых жудасных пачвар паварочвалася на бок і пазірала на нас халоднымі ўважлівымі вачыма, нібыта тыя двуногія забойцы ў апавяданні Хэмінгуэя. Не хацеў бы я, каб на мяне так глядзелі, апыніся я ў вадзе, мільганула думка.

— Не страляй, пакуль не пачнуць выскокваць з вады,—сказаў Эрнест.

Капітан зусім збавіў ход, так што яхта ледзь рухалася. Толькі каб плот не набліжаўся да самой кармы. Я заўважыў, што акулы плылі парамі. Запрасілі на абед сваіх сяброўак. Тут не бывае мужчын без жанчын, падумаў я. Раптам здаравенная акула падскочыла ўверх. Яна змахвала на таварны цягнік, які вынырнуў з вады, разяўленая зяпа нагадвала чыгуначны тунель. Туды ўлезла б чалавечая галава. А шчэлепы... Даўжыня пачвары дасягала, пэўна, дзесяці футаў.

Я так быў уражаны велічынёй драпежніцы, што збянтэжыўся і забыўся стрэліць. Гіб, відаць, таксама. Але «забойца» Хэмінгуэй не забыўся. Мы пачулі стук аўтамата і ўбачылі, як кулі ўпіваюцца ў цела акулы. Рыба быццам застыла на імгненне ў паветры, потым, нібы каменная глыба, рухнула прама на плот. Ад такога ўдару плот ледзь не перавярнуўся. З кулявых адтулін, быццам чырвоная вада з кранаў, фантанам свістала кроў. Гэта паслужыла сігналам для пачатку жахлівейшага відовішча, якое толькі можна ўявіць.

Паранены драпежнік, які сутаргава трапятаўся на плоце, быў яшчэ жывы. Але астатнія акулы, забыўшыся на тунца, наляцелі на яго. Ён спрабаваў адбівацца, але песенька яго была спета. На нашых вачах яго рвалі на кавалкі. Вада пачырванела ад крыві. Яна кіпела, быццам чырвоны вір, калі акулы навыперадкі кідаліся на ўласнага таварыша. Гэта ж было свежае мяса! Было чутно, як іх страшэнныя зубы рвуць, раздзіраюць яго на часткі. Гэткі трэск стаіць, калі рабочыя крышаць стары будынак. Больш за ўсіх лютавала самка параненага драпежніка. Я бачыў, як яна выхапіла з бруха свайго ўсё яшчэ жывога супруга кавалак фунтаў з дваццаць. Яшчэ хвіліну назад яна, песцячыся, плыла поруч са сваім сябрам, а цяпер жэрла яго жывога. Вось якая жаночая прырода, падумаў я. Я вырашыў прыкончыць яе, у што б там ні было. А гэта ледзь не каштавала мне жыцця...

Я ўскочыў на ногі, каб як след прыцэліцца. Але стрэліць не паспеў. Нешта, падобнае на дванаццацідзюймовы снарад, разарвалася каля самага майго вуха і адначасова ўдарыла па цемю. Я асунуўся долу. Да маёй свядомасці дайшло, што, пэўна, містэр Гібанс разрадзіў сваю гаўбіцу, калі я прыпадняўся.

Я не ведаў, ці цяжка паранены. Асаблівага болю не адчуваў. Але, кажуць, чым цяжэйшая рана, тым меншы боль адчуваеш. Можа, я ўжо мёртвы, падумаў я, але сам гэтага яшчэ не ведаю? Хто ведае, можа мая макаўка ўжо ў вадзе і акулы грызуцца з-за маіх мазгоў? Я асцярожна дакрануўся да чарапной каробкі. Яна была цэлая. Але святочнай дзесяцідоларавай фуражкі як не было.

Я расплюшчыў вочы і ўбачыў Гіба, Хэмінгуэя, капітана яхты і астравіцяніна. Усе яны з жалем глядзелі на мяне, як звычайна глядзяць на якога-небудзь бедалагу, што трапіў у аварыю. Я спалохаўся, што адзінае вока Гіба вось-вось выскача. Можна было заўважыць, што ён страшна перажывае з-за свайго злачынства. Хэмінгуэй перавярнуў мяне, быццам дзіцянемаўля, на жывот і правёў рукой па валасах. І раптам зарагатаў.

— Ні драпіны!—сказаў ён.—Проста шапку здзьмула. Толькі і ўсяго.

Вы толькі зірніце на яго. Смерць сарвала з мяне фуражку, а ён гаворыць: «Толькі і ўсяго!» Дзесяць ці дванаццаць шарыкападшыпнікаў быццам грэбенем прайшліся па маіх валасах, а яму смешна. Старая звычка жартаваць з магільшчыкамі, якая засталася з часу яго жыцця ля могілак, падумаў я. Мяне гэта так раззлавала, што я сеў.

— Толькі і ўсяго, кажаш?—сказаў я.—Яшчэ б чвэрць дзюйма—і акулы елі б мае мазгі.

— Сумняваюся,—сказаў ён.—Калі б яны ў цябе былі, ты б не ўставаў.

Мы з Гібам захапілі бутэльку віскі і спусціліся ўніз. Мы прылеглі на ложкі, паставіўшы бутэльку побач, і вырашылі падрамаць. Але з такім жа поспехам мы маглі паспрабаваць заснуць у кацельным цэху ці на бойні жывёлы. З палубы даносіўся трэск аўтамата, а каля кармы—жахлівае шчоўканне шчэлепамі і ўдары хвастоў. Здавалася, што ўсё гэта адбываецца ў нашай жа каюце. Калі б не бутэлька віскі, можна было б падумаць, што мы сядзім у зямлянцы, а вакол кіпіць бой. Чутно было, як рычыць і лаецца Хэмінгуэй. Напэўна, ужо забыўся, што ў той фуражцы магла б застацца мая галава, падумаў я.

— Гэты чалавек—забойца ў душы,—сказаў я.—Яму трэба было б у Чыкага ўладкавацца на бойню.

— Заўзяты хлопец, нічога не скажаш, — пагадзіўся Гіб.—Але пісаць умее здорава, ліха на яго!

— Трасцу ён умее пісаць,—сказаў я.—Піша для людзей, якія варушаць губамі, калі чытаюць.

— А ты чытаў калі-небудзь яго кнігі? — спытаў Гіб.

— Не.

— Чаму?

— У мяне няма ніводнай,—сказаў я.

— Чаму ж ты не купіш?

— Купіць?—спытаў я.—Хто гэта купляе кнігі, якія піша прыяцель?

— Тады дастань у бібліятэцы,—параіў ён.

— Паспрабуй, дастань,—сказаў я.—У Нью-Йорку я хадзіў у восем бібліятэк і не мог палучыць ніводнай яго кнігі. Усе на руках. Трэба за два месяцы станавіцца на чаргу.

— Гэта даказвае, што ён усё-такі здорава піша!—сказаў Гіб.

— Не. Проста гэта даказвае, што ў нас вельмі многія варушаць губамі, калі чытаюць, — запярэчыў я.—У тым ліку і ў Галівудзе.

— Цішэй,—сказаў Гіб.—Ён, здаецца, ідзе сюды.

Вайна наверсе спынілася. Але на палубе ўсё яшчэ чуўся тупат босых ног Эрнеста. Ён босым больш грукатаў, чым іншыя ў ботах. Мы чулі, як запрацавалі маторы, і заўважылі, што яхта плыве. На палубе, падобна, ішла нейкая работа. Але мы з Гібам не ўставалі, дапрацоўвалі бутэльку. Віскі, відаць, было больш пахучае, чым тое, што прадаюць у нас у Нью-Йорку. «Забойца» Хэмінгуэй, пэўна, пачуў зверху пах. Ён спусціўся да нас, усміхаючыся да вушэй.

— Мы прышылі восем штук,—сказаў ён.

— Што ў цябе за звычка гаварыць «мы»?—сказаў я.—Спадзяюся, я не сапсаваў табе дня, не трапіўшы на той свет?

— Ні кроплі,—адказаў ён.—Дзень яшчэ наперадзе. Як дыхаеш?

— Дзякую. Болю ніякага...

Ён пацягнуўся да бутэлькі.

— Відаць, відаць,—сказаў ён.

Смальну я па ім з абодвух ствалоў, падумаў я, і сказаў:

— Скажы, Эрнест, у цябе хто-небудзь страляў, калі ты адкусваў сэндвіч з тунцом?

— Не,—адказаў ён.

— Вось бачыш,—сказаў я.—А сам расстрэльваеш з аўтамата восем бедных рыбін толькі за тое, што адна з іх адкусіла кавалачак ад твайго тунца. Хіба гэта справядліва?

— Выйдзем на палубу, падыхаем свежым паветрам,—сказаў ён.

— Выдатная ідэя,—пагадзіўся Гіб.

**Працяг у наступным нумары.**

